# ЗЬМЕСТ.



1-ая Дзярж. друк. Зак. № 2443. У ліку 2.500. Галоўлітбел № 25.696.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная часопісь сельскай і лясной гаспадаркі.

III год выданьня Чэрвень 1927 г. № 6

## Чарговыя задачы ў с.-г. будаўніцтве вёскі.

Пасьля доўгай разрухі сельскай гаспадаркі пад час вайны, першыя захады Савецкай улады былі накіраваны на тое, каб засеяць большую плошчу, павялічыць ураджай, палепшыць гадоўлю жывёлы і інш. Нейкі час і крэдыты адпускаліся на агранамічныя мерапрыемствы, землеўпарадкаваньне і інш. у першую чаргу.

А самая сяліба гаспадаркі—пляніроўка двара і пасёлішчаў і ўсе будынкі селяніна будаваліся па старому, без усякага пляну, як хто мог і жадаў. Цяпер з палепшаньнем агульнага становішча настаў момант і для ўпарадкаваньня саміх селішчаў, без чаго немагчыма пабудаваньне новай вёскі.

На чарзе ў гэтым напрамку стаіць задача палепшыць устарэўшыя формы будаўніцтва, зрабіць больш удалай іх пляніроўку, прыдаць агнятрываласьць будынкам, ацяпліць і асвяціць хлявы, палепшыць вадаснабжэньне і тым самым пазбавіць вёску і ад пагрозы пажараў і розных хвароб—эпідэмій.

Асабліва вялікае значэньне маюць гэтыя мерапрыемствы ў сучасны момант, калі разам з землеўпарадкаваньнем значная частка сялян павінна пераносіць свае будынкі на новае месца і тым лягчэй стварыць новую вёску.

Царская ўлада не цікавілася палепшаньнем сельскага будаўніцтва. Пасёлішчы будаваліся без усякага пляну. Перад вайной земствы адчынілі каля 30 майстэрняў па вырабу цэментнай чэрапіцы і студнёвых труб. З гэтых-жа майстэрняў адпускаліся хутаранам у доўгатэрміновы крэдыт матар'ялы. Земскія майстэрні пабудавалі толькі каля 100 агнятрывалых будынкаў і каля 1500 гліна-саломенных дахаў, захаваўшыхся і цяпер.

Наркамзему прышлося пачаць працу па агнятрываламу будаўніцтву амаль занова. Гэта праца сустрэла жывы водгук сярод насельніцтва. Для разьвіцьця самадзейнасьці насельніцтва быў зацьверджан статут таварыстваў агнятрывалага будаўніцтва. Таварыствам урадам дадзен шэраг ільгот. Для рэгуляваньня будаўніцтва Саўнаркомам зацьверджаны правілы расплянаваньня і забудоўлі паселішчаў; на падставе гэтых правіл Наркамземам распаўсюджаны праз сельсаветы і землеўпарадкавацеляў тыпавыя проэкты забудовы новых паселішч.

За мінулы год па ўсей БССР было арганізавана 31 таварыствы агнятрывалага будаўніцтва, адчынена 28 бятонных майстэрняў, пабудована 61 агнятрывалых будынкаў і 207 бятонных студняў.

Бягучы год зьяўляецца больш спрыяючым для пашырэньня пачатых мерапрыемстваў. У кожнай акрузе ёсьць да пяці тэхнікаў і май-



строў для тэхнічнай дапамогі насельніцтву. У большасьці акруг частка дзяржаўных будынкаў будуецца агнятрывалага тыпу. У Полацкай акрузе зараз будуецца 10 гліна-гальлёвых будынкаў для вэтпункту, сельсаветаў і школ. Для абучэньня майстроў у ва ўсіх акругах усё лета праводзяцца практычныя месячныя курсы.

Цэнтраземскладам закуплена 125 вагонаў цэмэнту, Белсельбанкам адпушчаны крэдыт на тэрмін ад 3 да 8 гадоў:

| | |
|---|---|
| На выраб агнятрывалых матар'ялаў . . | 125.000 руб. |
| На агнятрывалае будаўніцтва . . . | 165.000 „ |
| На пабудову бятонных студняў . . . | 30.000 „ |
| На перанос і пабудову будынкаў насельніцтву, дзе праходзіць земляўпарадкаваньне . . | 1.000.000 „ |
| Дзяржстрахам асыгнавана . . . . . | 40.000 „ |

Значную дапамогу ў справе популярызацыі мерапрыемств па паляпшэньню будаўніцтва маглі-б аказаць раённыя аграномы і земляўпарадкаваці, бо ў іншым выпадку і іх праца па рэорганізацыі сельскае гаспадаркі ня можа даць значных вынікаў.

Што павінен рабіць селянін? Зараз пасеў ужо скончаны, настае час, калі многія сяляне пачнуць будавацца. Прыступаючы да гэтай важнай справы, селянін павінен добра абмеркаваць, на якім месцы ставіць будынак, па якому пляну, з якіх матар'ялаў рабіць сьцены, дах і інш. Трэба вырашаць гэтае пытаньне так, каб *будавацца агнятрывала і адзін раз на сваім вяку,* а не перабудоўвацца па некалькі раз і зьнішчацца ад кожнага выпадковага пажару і зноў пачынаць жыцьцё.

Для гэтага трэба расплянаваць свае будынкі абавязкова з разрывам (да 20 мтр.) ад суседа і наогул па гэтаму пытаньню трэба пачытаць правілы ў сваім сельсавеце. Там-жа выдаецца і дазвол на пабудову.

Акрамя гэтага, у малалесных раёнах на дапамогу селяніну павінны прыйці іншыя матар'ялы—гліна, пясок, гальлё, камень, граві, вапна і інш., якія здабываюцца на месцы. З іх таксама можна выкласьці добрыя сьцены. Трэба пашукаць каля сваёй сялібы гэтыя матар'ялы, парадзіцца з вядомым майстрам, або зьвярнуцца да бліжэйшага таварыства па агнятрываламу будаўніцтву ці да спэцыяліста Акрземаддзелу. Ён жа дапаможа і атрымаць у крэдытовым т-ве доўгатэрміновы крэдыт да 200-250 руб. на агнятрывалую пабудову.

Абмяркуйце, сяляне, добра ўсе пытаньні пабудовы. Забараняйце сябе ад урону пажараў.

Прэч стрэхі з саломы!

Будуйце чэрапічныя і глінасаломенныя стрэхі, глінагальлёвыя і саманныя сьцены.

Арганізуйце т-вы агнятрывалага будаўніцтва.

**І. Т. Сухавараў.**




# Трэба так будавацца, каб агню не баяцца.

*(Віцебская акруга).*

Чырвоны певень у нашай вёсцы разгульвае ва ўсю. Бываюць выпадкі, што ён нішчыць цэлыя вёскі. У сялянства вайшло ў звычай спадзявацца „авось не згарым" і мала зьвяртаць увагі на тое, каб забясьпечыць сябе ад чырвонага пеўня.

Калі ўзяць статыстыку за 1926 г., то яна нам паказвае, што па ўсёй БССР здарылася 3.500 пажараў, згарэла 25.000 розных будынкаў. Такім чынам, у сярэднім пры адным пажары згарае 7 будынкаў. Прычына такіх пажараў здараецца ад неасьцярожнасьці якога-небудзь аднаго грамадзяніна, а пры нашых драўняных будынках і саламянай страсе агонь распаўсюджваецца ўсё дальш і дальш.

Пры жаданьні ад чырвонага пеўня можна сябе забясьпечыць. Перш-на-перш трэба так будавацца, каб былі разрывы паміж сялібамі; трэба старацца садзіць дрэвы: яны мяшаюць пашырэньню агню. Трэба паклапаціцца аб тым, каб была па блізасьці вада на той выпадак, калі здарыцца пажар. А галоўнае, трэба зьвярнуць больш увагі на агнятрывалае будаўніцтва. Лесу ў нашых умовах, што далей, то адпускаецца менш і менш: яго мала ды і высеклі на некалькі гадоў уперад. Пры агнятрывалым будаўніцтве лесу патрэбна мала. Гальля у нас дастаць можна; апрача таго, гліна таксама маецца. Вось гэты матар'ял і патрэбен для будоўлі агнятрывалага будынку.

Агнятрывалыя будынкі, якія былі пабудаваны яшчэ да вайны, гавораць за тое, што іх будаваць можна, яны і пры кепскім доглядзе сябе апраўдалі.

Пясок, гліна, вапна, камень, цэгла і інш. матар'ял дадуць агнятрывалае, здаровае і прыгожае сельска-гаспадарчае будаўніцтва. Пры агнятрывалым будаўніцтве селянін можа спаць спакойна.

А што-ж робіць Савецкая ўлада ў гэтай галіне? Перш-на-перш на будынкі выдаецца доўгатэрміновая пазыка да 5 гадоў і на выраб матар'ялаў да аднаго году. Пры акруговым зямельным аддзеле маюцца працаўнікі, якія вядуць працу ў гэтай галіне па ўсёй акрузе ў тых грамадзян, якія будуюць агнятрывалыя будынкі. Віцебская акруга забясьпечана ў дастатным ліку інструмантамі для вырабу розных матар'ялаў. Гэты інструмант увесь аддаецца ў тыя арцелі і т-вы дзе пачынаецца праца і ў тыя т-вы, дзе ўжо праца ідзе. Усе гэтыя інструманты даюцца бяз усякай платы, пакуль троху абзавядзецца т-ва.

У мінулым годзе не хапіла цэманту, што затрымала выраб матар‘ялаў. У гэтым годзе цэманту будзе, колькі патрэбна.

Будуйце агнятрывалыя будынкі — ня будзеце гарэць.

Арганізуйце т-вы агнятрывалага будаўніцтва.

За ўсімі пытаньнямі зьвяртайцеся ў акругові зямельны аддзел.

**Я. Талуціс.**

---

# Як пабудаваць варыстую печ для апалу торфам.

У № 4 часопісі „Плуг“ інж. Радзевіч дае кароткае ўказаньне аб пабудове варыстай печкі. У мяне-ж на чарцяжах і ў тлумачэньні да іх апісваецца, як скласьці такую печ для апалу торфам.

Печ гэтага тыпу ўпяршыню зроблена інж. Крышталовічам і на практыцы аказалася надта добрай.




**Тлумачэньне скарачэньняў.**

| | |
|---|---|
| ч. чыстка. | о. пячуркі. |
| з. зальнік. | пч. падпечча. |
| ш. шанцы. | в. юшка. |
| пд. подвёртка. | зд. засоўка. |
| тр. труба. | вк. выцяжн. канал. |
| оп. спуск дыму. | пр. перавал дыму. |
| к. каласьнікі. | у. вусьце. |
| т. тапліўнік. | |

**Маштаб: 0.35 м. у 2 сант.**

На малюнку № 1 паказан плян (разрэз) печкі па лініі I-I, які зроблены на высаце 2-й цэглы ад нізу. На малюнку відаць: падпечча, зальнік і падвёртка; на малюнку № 2 (разрэз па лініі 2-2, які зроблен на высаце 9-й цэглы) паказан, апрача зальніка і дымавой трубы, спуск дыму з тапліўніка ля задняй сьцяны і праход дыму па бакам зальніка і па шанцам пад подам печы ў дымавую трубу з папярэднім апусканьнем ніжэй шанцаў.

На мал. № 3 паказан паземны разрэз па лініі 3-3 (па вышыні 14-й цэглы). На ім відаць спуск дыму з тапліўніка ля задняй сьцяны—

каласьнікі над зальнікам, под, які ляжыць на шанцах, і яшчэ паказан пераход у дымавую трубу.

На мал. № 4 паказан падоўжны зьверху ўніз разрэз па сярэдзіне печы—па лініі а-а. На ім відаць падпечча, зальнік, каласьнік, шанцы пад подам, под, тапліўнік і перавал дыму.




На мал. № 5—папярэчны старчковы разрэз па лініі б-б. На ім паказана падпечча, шанцы са спускам дыму ў дымавую трубу, гняздо ў'юшкі (в) і ніжэй засоўка (зд) дзеля рэгуляваньня дыму, з боку засаўка дзеля ўдаленьня дыму з шастка (пярэдняя частка печы) у час падкладкі тапліва і выцяжная жалезная труба з дзіркаю (штуцэрам) для самавара.




Печ мае двухстворныя дзьверцы, якія павінны быць зачынены ў час топкі. У дзьверцах ёсьць два акенцы з клапанамі, якія можна адсунуць у бок і наглядаць за топкаю.

Мал. № 6—разрэз па лініі г-г упоперак поду па зальніку. На ім відаць зальнік каласьніц, часьць падпечча і праходы дыму са спускам каналу ў шанцы пад подам.

Мал. № 7—разрэз па лініі в-в зьверху ўпоперак поду; на ім паказаны падпечча, шанцы, под і свод.

Мал. № 8—паказвае пярэдні фасад печы, пачатак тапліўніка, дзьве засаўкі ў'юшкі і жалезную выцяжную трубу.

На мал. № 9—паказан бакавы від печы з пячуркамі.

Гэта печ мае даўжыню 208 см., шырыню 130 см. і вышыню 130 см., а па шастку вышыня—208 смтр.




Для складаньня печы трэба муляру 6 дзён; цэглы трэба 1000 шт., гліны 2 куб. мтр., цьвікоў 150 шт., дроту 2 клгр., ў'юшак 1 шт., засовак 2 шт., дзьверцаў 1 шт., каласьнікоў 1 шт., труб жалезных 1 шт.

Падробныя веды аб пабудове можна атрымаць у АКРЗА ў тэхнікаў па агнятрываламу будаўніцту.

Інжэнэр Сухавараў.

---

## Аб мерапрыемствах проці празьмернага драбненьня сялянскіх гаспадарак.

Па пэрспэкцыйнаму пляну Народнага Камісарыяту Земляробства гаспадарак, якія не забясьпечаны нормаю зямлі, у БССР лічыцца 40 проц. Колькасьць іх усё павялічваецца па прычыне імкненьня сялян да падзелу. З таго-ж пляну відаць, што ў 1924 г. сялянскіх двароў было 661.301, у 1925 г.—677.261, у 1926 г. ўжо 690.497. Праўда, ня ўся прыбаўка новых гаспадарак зьявілася ў выніку падзелаў. Амаль што палова іх утварылася занава, але штогодны падзел і 5000 гаспадарак прадстаўляе сабою ненармальнае зьявішча.

Ва ўсіх выпадках і заможная гаспадарка пасьля падзелу адразу-ж бяднее. Трэба будавацца, набываць інвэнтар і неабходныя ў гаспадарцы рэчы. На ўсё гэта патрэбна шмат грошай. Прыходзіцца рабіць даўгі, выбівацца з сіл і г. д. Вось чаму ня ўсякая падзяліўшаяся гаспадарка зноў становіцца на ногі. Многія з гэтых гаспадарак слабеюць так, што

мусяць аддаваць зямлю ў арэнду і шукаць ратунку ў заработках альбо перасяленьні.

Падзел гаспадаркі заўсёды зьяўляецца вялікім злом. Толькі буйная гаспадарка можа быць таварнай. Яна прадае гораду сельска-гаспадарчыя прадукты і купляе вырабы прамысловасьці. Дзеля гэтага прынцыповы погляд на падзел гаспадаркі павінны быць аднакавым незалежна ад плошчы гаспадаркі, якая дзеліцца.

Трэба абмеркаваць тыя мерапрыемствы, якія ў сучасны момант могуць быць прыняты проці празьмернага драбненьня сялянскіх гаспадарак.

Перш, ці мэтазгодным будзе простая забарона падзелаў шляхам выданьня аб гэтым асобнага закону? Ў запраўды, калі члены двара падзеляцца пасьля гэтага самахвотна, дык ці будзе магчымасьць іх аб'яднаць зноў? Значыцца, у гэтым разе, закон ня будзе ажыцьцяўляцца. Калі-ж у сям'і заўсёды ідуць нялады і сумеснае жыцьцё членаў двара зьяўляецца зусім немагчымым, дык забарона падзелаў у гэтых выпадках можа давясьці да вельмі цяжкіх сямейных драм—да збойства родзічаў і зьнішчэньня гаспадаркі. Выпадкі гэтыя ўжо здараюцца ў сувязі з забаронай падзелу гаспадарак, незабясьпечаных найбольшаю нормаю.

Ці не такое-ж значэньне, як і простая забарона падзелаў, будзе мець і прадастаўленьне двару права абвяшчаць гаспадарку недрабімай па пастанове большасьці яго поўнапраўных членаў. Правам гэтым будуць карыстацца толькі такія члены гаспадаркі, у якіх няма згоды. Каб ня даць магчымасьці патрабаваць падзелу тым членам двара, якія жадаюць з яго выйсьці, большасьць будзе абвяшчаць двор непадзельным.

Якія-ж будуць вынікі, калі, пры немагчымасьці сумеснага жыцьця членаў двара. даць ім права зварочвацца ў суд дзеля вырашэньня пытаньня аб тым, хто з іх павінен выйсьці са складу двара. Ці не пачнуцца ў гэтым разе суды без канца па высяленьню адзін другога.

Падзелы сялянскіх гаспадарак выклікаюцца ў нас двумя асноўнымі прычынамі: 1) запраўднай немагчымасьцю сумеснага жыцьця членаў двара і 2) тымі ільготамі, якімі па закону карыстаюцца ў нас дробныя слабасільныя гаспадаркі.

Ці ня лепш было-б у мэтах барацьбы з падзеламі гаспадарак, у разе вызначанай пры разглядзе справы немагчымасьці сумеснага жыцьця членаў двара, даваць (пры адсутнасьці згоды—прысуджаць) толькі выплаты выходзячым са складу двара членам. Падзел-жа зямлі, будынкаў, інвэнтару і іншае маемасьці застаўляць толькі на карысьць такіх членаў двара, якія самастойна працавалі ў ім ня менш 6—10 гадоў і ня могуць прытым заняцца нічым іншым, апрача сельскай гаспадаркі. Старым бацьком прысуджаць у гэтым разе кватэру, альбо плату за кватэру і належнае ўтрыманьне.

Што-ж датычыцца ільгот, якія маюць падзяліўшыяся гаспадаркі (па абрэзцы, сельска-гаспадарчаму падатку, землянадзяленьню, абавязковай вайсковай службе і інш.), дык ці ня трэба ўсе гэтыя ільготы адмяніць, каб уперад падзелы рабіліся-б толькі ў разе немагчымасьці сумеснага жыцьця членаў двара і не выклікаліся-б імкненьнем атрымаць іх праз падзел.

Трэба таксама адмяніць рэгістрацыю ў Раённым Выканаўчым Камітэце самахвотных падзелаў. Забарона падзелу не дасягае мэты. Самавольныя-ж падзелы не павінны дастаўляць падзяліўшымся дваром ніякіх ільгот [1]).

**А. Вішнеўскі.**

## Земляўпарадкаваньне вучасткаў і перадачы іх мэліорацыйным таварыствам. *)

Цяпер у БССР налічваецца 716 мэліорацыйных таварыстваў, якія абяднаюць 46.990 сяброў-гаспадароў. Гэтыя коопэратывы маюць 140.073 гэктара забалочаных зямель, пераданых ім для асушкі і культуры. Як бачым, цэлая армія найбольш сьвядомых сялян узялася за асушку балот.

Значэньне такога мэліорацыйнага руху вялікае. Даецца магчымасьць з балот зрабіць ураджайныя землі і тым пазбавіцца малазямельля і бяскорміцы.

Дзеля гэтага трэба, каб мэліорацыйнае т-ва было праканана, што тую зямлю, якую яно паляпшае, пасьля ніхто адабраць ня можа. А гэта здарыцца можа толькі там, дзе земляўпарадкаваньне яшчэ ня было. Водна-мэліорацыйны кодэкс прадугледжвае (кажа), што калі мэліорацыйнае т-ва затраціць сродкі на асушку балота і калі пры земляўпарадкаваньні яно будзе адабрана ад яго, то новы землякарыстацель павінен сплаціць першаму ўсе расходы. Умовы і парадак такой сплаты вызначаецца Саветам Народных Камісараў. Бязумоўна, гэта добра. Кожнае мэліорацыйнае т-ва будзе ведаць, што праца яго дарам прапасьці ня можа. Але ўсё-ж такі, калі такія адбіраньні зямлі будуць то гэтым парушаецца правільная работа т-ва, нават часова можа зусім спыніцца. А каб гэтага ня было, трэба перад зацьверджаньнем (рэгістрацыяй), мэліорацыйнага т-ва вызначыць усе зямельныя вучасткі, якімі яно будзе карыстацца па закону земляўпарадкаваньня.

Калі гэта правіла будзе ўведзена і мэліорацыйныя т-вы будуць мець выпіс па земляўпарадкаваньні свайго вучастка, то яно будзе спакойна працаваць не баючыся, што заўтра яго балота разьмяжуюць. Земляўпарадкавацелям-жа трэба ў першую чаргу адмежаваць усім мэліорацыйным т-вам іх вучасткі, бо на Беларусі шмат т-в не земляўпарадкавана.

У далучанай да Беларусі Рэчыцкай акрузе лічылася, што т-ва толькі тады лічыцца зацьверджаным, калі балота т-ва адмяжована. Нават у першы год такі парадак даў добрыя вынікі. **А. Ум.**

## Пытаньні і адказы па зямельных справах.

*Пытаньне 76.* Ці магчыма земляўпарадкаваньне ў другі раз такіх землякарыстаньняў (хутароў, адрубаў і пасёлкаў), якія былі ўжо ўпарадкаваны пры савецкай уладзе і якія ў сучасны момант пры правядзеньні земляўпарадкаваньня агульнае дачы разьмеркаваньня апынуліся ў межах гэтае дачы (Віцебская Акрземкамісія).

*Адказ.* Правядзеньне пасьля рэвалюцыі на тэрыторыі паасобных гаспадарак або групы іх земляўпарадкаваньня ня можа перашкаджаць

---

[1]) Зьмяшчаючы гэты артыкул у парадку абгаворраньня, рэдакцыя просіць чытачоў выказацца па закранутаму ў ім вельмі балючаму для вёскі пытаньню, бо гэтым летам мае быць выдана законадаўчая пастанова аб агранічэньні драбненьня гаспадарак пры падзелах.
(Рэдакцыя).

уключэньню тэй-жа тэрыторыі ў новае земляўпарадкаваньне са зьменаю межаў паказаных гаспадарак у мэтах скасаваньня нявыгод сумеснага землякарыстаньня.

*Пытаньне 77.* Калі магчыма земляўпарадкаваньне другі раз гаспадарак, якія ўжо былі ўпарадкаваны пасьля рэвалюцыі, дык якую плошчу зямлі яны атрымліваюць у выніку новага земляўпарадкаваньня.

*Адказ.* Права на зямлю для ўпарадкаваных пры савецкай уладзе гаспадарак, якія залічаны ў агульную дачу разьмеркаваньня, вызначаецца іх фактычным земляўпарадкаваньнем з ужываньнем параўнаўчае расцэнкі.

*Пытаньне 78.* Ці можна аддаць зямлю ў арэнду на адзін год за палавіну ўраджаю, калі гаспадарка аслаблена і ня мае насеньня (Абалецкі сельсавет).

*Адказ.* Часова аслабленая працоўная земляробская гаспадарка можа аддаць зямлю ў арэнду. Тэрмін арэнды, калі гаспадарка ня мае правільнага севазвароту, павінен не перавышаць 12 гадоў, але можа быць і меншы хаця-б і 1 год. Аплачваецца заарандаваная зямля грашыма, прадуктамі альбо другім спосабам, а значыць часткай ураджаю, каб толькі ўмова ня была кабальнай. Маючы аднак на ўвазе, што арандатар цяпер у большасьці заможнее ад здатчыка, можна прызнаць, што наогул аддача зямлі ў арэнду за палову ўраджаю не павінна лічыцца кабальнаю.

*Пытаньне 79.* Як трэба разумець арт. 124 зям. код. аб замацаваньні зямлі за паасобнымі гаспадаркамі з дню выдачы ім дакумэнтаў. (Мазырская акрземкамісія).

*Адказ.* Па зямельнаму праву БССР трэба адрозьніваць прадстаўленьне зямлі паасобным гаспадаркам на праве працоўнага карыстаньня і замацаваньне яго. У старой Меншчыне ўсе існуючыя з часу прыняцьця II Усебеларускім Зьездам Саветаў пастановы па аграрнаму пытаньню гаспадаркі лічацца працоўнымі. Калі землякарыстаньне іх не дасягае мінімальнае нормы, яны маюць права на данадзяленьне; калі-ж землякарыстаньне перавышае максымальную норму, лішкі зямлі ад іх адбіраюцца. Землякарыстаньне ў межах вызначаных норм лічыцца замацаваным. Урэшце гаспадаркі, якія складзены пасьля II Зьезду Саветаў, маюць права працоўнага карыстаньня, калі зямлю атрымалі ад зямельных органаў; прычым, калі землянадзяленьне гэтае зроблена ў парадку земляўпарадкаваньня з выдачай дакумэнтаў, землякарыстаньне лічыцца замацаваным у незалежнасьці ад яго разьмераў.

*Пытаньне 80.* Ці можна лічыць запраўднымі ўмовы на зямлю, якія зроблены ў 1918 г., а калі не, дык ці можна адабраць зямлю, якая знаходзіцца з гэтага часу ў працоўным карыстаньні пакупшчыка (Каралінская Райземкамісія).

*Адказ.* На грунце 1 і 2 пунктаў абежніка Народнага Камісарыяту Земляробства БССР за 13 лютага 1919 г. № 997, працоўныя земляробы, якія купілі зямлю ў час нямецкай акупацыі і перайшлі на гэтую зямлю раней 15 красавіка 1919 г., карыстаюцца адносна купленай зямлі ўсімі правамі карэннага насельніцтва. Пастанова-ж II Усебеларускага Зьезду Саветаў 17 сьнежня 1920 г. дала карэнным земляробам усе правы працоўнага землякарыстаньня, дакладна вызначаныя потым у зямельным кодэксе. Дзеля гэтага зямля, якая знаходзіцца з 1918 г. ў працоўным карыстаньні, можа быць адабрана толькі на падставах, вызначаных у зям. код.




# Якімі павінны быць адносіны сялянства да лесу вясною і летам.

Лес зьяўляецца гаспадаркай, якая патрабуе да сябе разумных прыхільных і ашчэдных адносін з боку грамадзянства. Асабліва асьцярожным да лесу трэба быць у веснавы і летні час, гэта значыць тады, калі лес пасьля зімы дае новы гадавы прырост.

Вось, каб лес правільна і поўнасьцю змог папоўніць сваю зімовую страту ад вырубкі, дык трэба ў гэты час не рабіць яму ніякіх перашкод. Такімі перашкодамі зьяўляюцца:

1) Несваечасовы вываз з лесу пасьля зімняй рубкі астач, астаўленьне на вясну і нават лета зваляных і не абкораных бярвеньняў, што толькі дапамагае павялічэньню шкоднікаў—караедаў, вусачоў, доўганосікаў і інш.

2) Таксама трэба абкарыць стралёваны ці вывезены лес на сялібы, бо ён можа прытуліць шкоднікаў, якія скора перабяруцца ў лес і там пачнуць яго псаваць.

3) Неасьцярога з агнём вельмі часта губіць значную частку дрэвастанаў і асабліва лясных культур.

4) Бяссыстэмная паша жывёлы часта ў забароненых месцах можа зусім папсаваць аднаўленьне лесу.

5) Выпадковы прагон па лесе авечак і іх паша там зьністажае ўвесь падрост у дрэвастанах, што ўжо на доўгі час не дае аднаўленьня.

6) Праклад новых дарог пры бездарожжы па маладняках і старым лесе таксама зьмяншае лясныя плошчы.

Адзначаныя перашкоды можна лічыць галоўнымі, якія непасрэдна шкодзяць лясной гаспадарцы. Вясьці з імі барацьбу здавалася-б вельмі лёгка, але вясьці яе павінна ўсё грамадзянства. Дзеля гэтага кожнаму трэба толькі крыху сябе дысцыплінаваць.

Напрыклад, сваечасовая вывозка лесу і абкорка патрэбна гаспадару, бо дрэва лепш прасохне і хутчэй можа ісьці ў дзела, а дзеля лесу—шкоднікі ня змогуць распаўсюджвацца. Таксама авечкі пашаю ў лесе не накормяцца, а шкоды прынясуць многа. Можна заўсёды тайком праехаць па культурам ці іншым месцы, але павінен-жа быць грамадзянскі гонар і сьвядомасьць, што гэта дрэнна для лясной гаспадаркі, а яна ёсьць агульная маёмасьць усяго працоўнага народу і вельмі значная пры пераводзе на грошы.

Цяпер разгледзім коратка перашкоды, якія робяцца лясу з прыроднага боку. Тут трэба ўспомніць, што лес заўсёды трэба разглядаць як нешта суцэльнае. У ім існуе шырокая сувязь дрэвастанаў між сабою,

затым дрэвастанаў з падростам, які ў будучым зьменіць дрэвастаны, калі яны будуць высечаны. Падлесак, які часта складаецца з арэшніку, крушыны і інш. хмызьнякоў, таксама патрэбен, бо ён паляпшае глебу, на якой растуць дрэвастаны.

Усе парушэньні, якія зроблены з таго ці іншага боку, будуць кепска адбівацца на росьце дрэвастану. Такім парадкам у лесе ўтвараецца само сабой такое становішча, у якім разьвіцьцё дрэвастану з найбольшай вытворчасьцю забясьпечана прыродай. Мала таго, тут ствараюцца ўмовы, якія нават залечваюць парушэньні, якія зроблены ўмяшацельствам чалавека.

Усім вядома, што ў лесе, як ні дзе далей, водзіцца шмат карысных птушак, якія ахоўваюць лес ад розных шкоднікаў, паядаючы розных кузурак і машкару.

Вось і тут відавочна, што трэба быць вельмі чулым к прыродзе лесу і ўстрымлівацца ад усякіх выпадкаў, якія так ці інячай могуць яму пашкодзіць. Нават малыя перашкоды, якіх зараз і ня відаць, у будучыне могуць цяжка адчувацца як на лясной, так і на сельскай гаспадарцы.

З гэтага боку трэба заўважыць наступнае:

1) Без патрэбы не хадзіць і ня езьдзіць па лесе вясною і летам, бо ў гэты час выводзяцца птушкі.

2) Ня пушчаць у лес сабак, як гэта робяць пастухі, бо шмат птушак выводзяцца на зямлі і можа быць лёгка зьністожана.

3) Наказваць пастушком не чапаць гнёзд і нораў і не аставацца пры іх доўга, бо дзічына ад гэтага можа пакінуць сваё месца назаўсёды.

4) Высьлед ваўкоў рабіць асьцярожна і зьністажаць іх пры дапамозе і ўдзеле паляўнічых, якія ў гэтым напрамку падрыхтованы.

Калі выпаўняць гэты кароткі пералік абавязкаў, якія не патрабуюць ніякіх расходаў, а толькі сьвядомасьці шырокіх працоўных мас і выпаўненьня грамадзянскіх абавязкаў к свайму агульнаму багацьцю краю—лесу, тады за гэту галіну народнай гаспадаркі можна быць спакойным.

Трэба думаць, што з кожным годом насельніцтва ўсё больш разумее патрэбы лясной гаспадаркі, замацоўвае яе на цьвёрдым грунце, у кароткі тэрмін азнаёміцца з галоўнымі мерапрыемствамі і будзе праводзіць іх у жыцьцё.

**Т. Гаўрылевіч.**

Нёманскае Л-ва.

---

# Ахоўвайце лес ад пажараў.

Наступіла гарачая пара і пачнуцца лясныя пажары. Ідзе селянін па лесе, закурвае люльку ці цыгарку, кідае рэшту запалкі на сухі мох. Загараецца траўка і праз кароткі час агонь ахоплівае вялікую плошчу лесу.

Лясныя пажары зьнішчаюць шмат маладняку, шкодлівы яны і вялікану сасьне. У працягу некалькіх гадзін гіне тое, што дзесяткамі і сотнямі гадоў расьцілася нашымі бацькамі і дзядамі, а мы няўважліва зьнішчаем палучанае ад іх багацьце, замест скарыстаньня яго на свае, грамадзянскія і дзяржаўныя патрэбы.

Не адно чалавечае жыцьцё праходзіць пакуль вырасьце дрэва.

Прыпомнім, як расьце дрэва. Маленькае семячка падае з сасны-маткі на сырую зямлю. Праходзіць год. З семячкі вырастае чуць прыметнае зялёнае дрэўца. Яшчэ год і маладое зялёнае дрэўца вырастае на 3-4 вярш. Так праходзяць гады, і толькі праз 60—80 год дрэва дасягае поўнага ўзорсту.

Чалавек у працягу гэтага часу родзіцца, расьце, жыве і толькі к старасьці дачакаецца, калі з семячка вырастае магутное дрэва. Жыцьцё ўсіх людзей і ўсёй жывёлы цесна зьвязана з жыцьцём лесу і ўсімі расьлінамі. Кожны чалавек і жывёла сваім дыханьнем атручвае паветра, бо яны ўвесь час выдыхаюць з сваіх лёгкіх вуглякіслату. Калі ў паветры вуглякіслаты зьбярэцца праз меру (звыш 0,03 проц.), дык чалавек перш адчувае сябе дрэнна, а далей можа і загінуць. Але ў прыродзе бывае так, што шкодліва жывёле, тое карысна расьлінам. Расьліны, наадварот, пры сьвеце сонца сваімі лісьцямі ўбіраюць у сябе вуглякіслату, раскладаюць яе на вугаль (вуглярод і кіслярод). Вугаль ідзе на павялічэньне росту расьлін, а кіслярод выходзіць назад у паветра.

Дык вот чаму ў лесе лягчэй дышыцца. Лес ачышчае паветра. Такім чынам, ён зьяўляецца ахоўцам нашага жыцьця.

Дрэвы, пасаджаныя на двары таксама ачышчаюць паветра нашай сядзібы.

У час пажару дрэвы зьяўляюцца абаронцамі будынкаў ад агня. Часта ў час пажару дрэва гіне ад агню, але захоўвае ад яго блізкія будынкі. Так было 2-га чэрвеня 1923 г. ў саўхозе Манчына (Беларуцкай в., Смаленскага павету), дзе згарэла шэсьць старых ліп, а поруч з імі жылыя хаты ўцалелі ад агню.

Лес дапамагае прыродзе роўнамернаму разьмеркаваньню вільгаці. Вясною лес не дазваляе сьнегу хутка сходзіць, чым затрымліваецца разьліў рэчак, а летам забараняе поле ад засушваючых променяў сонца, вятроў і зьберагае вільгаць.

Лес—наша багацьце. Лес нам патрэбен і дораг, як само жыцьцё, чаму трэба яго захоўваць. Станем прывучаць сябе і другіх адносіцца да лесу ашчэдна: без патрэбы ня сеч, не псаваць, ня драць кары. Дрэва з абадранаю карою памірае бяз ніякае карысьці для чалавека. Колькі пагібае лесу ад шкоднай і злачыннай прывычкі вясковых пастухоў і нават дарослых сялян.

Ня мала шкоды прыносяць лесу і захламленьне яго ў часы рубкі. Дрэва зрубаецца, патрэбныя часткі ўвозяцца, а верхавіны і суччa застаюцца непадабранымі, валяюцца, гніюць і разводзяць жучкоў караедаў, сановых доўганосікаў і інш. шкоднікаў лесу, а яны шмат глумяць лесу. С другога боку, гэты валежнік зьяўляецца небясьпечным ад пажару. Малая неасьцярожнасьць ці сьвядомае злачынства—і ў адзін момант валежнік становіцца вогнішчам, якое губіць шмат маладога і старога лесу.

За межамі ўжо навучыліся ахоўваць і цаніць лес. Напрыклад, калі там на вадзе рэчкі плыве хвораст, дык селянін яго вылавіць для апалу. Другое, чэхі для здабычы апалу садзяць на сырых месцах скорасьпелыя пароды—вярбу, таполі і інш.

Або яшчэ прыклад; там усе дарогі абсаджаны яблынамі, ігрушамі, вішнямі. Народ ходзіць па дарозе і ніхто яблыка ні сарве, не падніме апаўшага.

Дзеля інтарэса нашае дзяржавы і нас саміх мы павінны зрабіць усе крокі да абароны нашых лясоў. У выпадках пажару ў лесе, мы павінны тушыць з такім-жа посьпехам, як-бы мы тушылі нашы хаты ў час пажару. Трэба наказваць нашым пастухом ня класьці агня блізка каля лесу. Курачы табаку, ня кідаць ў лесе сярнічкі і акуркі не патушыўшы іх. Сурова забараніць пасьвіць скаціну па маладому лесу. Ва ўсіх школах павінны выкладацца пачатковыя веды аб лесе.

Наогул-жа, усе мы павінны мець разумныя адносіны да лесу— найвялікшаму падарунку прыроды. Лес—багацьце нашай дзяржавы, багацьце працоўных.

Сел.-дасьлед. **Г. Шасьцітка.**

---

# Лясная гаспадарка Беларусі за час вайны і рэвалюцыі.

З пачаткам імпэрыялістычнай вайны (1914 г.), дзякуючы блізкаму фронту, к лясам Беларусі былі прад'яўлены вялікія запатрабаваньні дзеля здавальненьня патрэб войска, чыгунак і розных вайсковых арганізацый. Пры гэтым лес секся без усякай сыстэмы.

У 1915 г. дзеля патрэб чыгунак было дазволена высячы 10 гадовых лесасек у лісьцяных дрэвастанах бліжэйшых да чыгунак дзяржаўных дачах. Усьлед за тым і прыватным уласьнікам было дадзена права высячы ў сваіх лясох ад 5 да 10 гадовых лесасек, што давала ім магчымасьць высячы ад 1/6 да 1/2 агульнага запасу драўніны.

Наогул, з пачаткам вайны ўсякая плянавасьць у лясной гаспадарцы была зьнішчана. Гэтаму дапамагло яшчэ тое, што значная частка лясных спэцыялістых была мабілізавана ў войска ці перайшла на службу ў вайскова-лесанарыхтоўчыя арганізацыі, дзе пэнсыя была большая і давалася звальненьне ад вайсковае павіннасьці.

Рэвалюцыя значна абвайстрыла дрывяны крызіс і высячка лясоў пашла яшчэ шпарчэйшым тэмпам.

У сакавіку 1918 г. значная частка сучаснай Беларусі была занята немцамі, якія прабылі тут да сьнежня. За гэты час яны вывязьлі з Беларусі вялізную колькасьць драўніны, як нарыхтованай раней для патрэб рускай арміі, так і нанова высячанай. Абшарнікі, якія зьвярнуліся з прыходам немцаў, таксама прыняліся за высечку сваіх лясоў і продаж зямлі з-пад лесу сялянству пад сельска гаспадарчае карыстаньне.

Са зваротам Савецкае ўлады, панскія лясы былі зноў нацыяналізованы. У пачатку 1919 году ў сувязі з дравяным крызысам была адведзена для Літвы і Беларусі 6-ці гадовая дравяная і двугадовая страявая лесасека.

У жніўні 1919 году Беларусь была занята белапалякамі і зноў у нашых лясох паўтарылася тое, што было пры немцах.

У ліпені 1920 г. са зваротам Чырвонае Арміі зьявілася неабходнасьць высячы 4-х гадовай лесасекі, а каля Менску 20-ці гадовай. Нарэшце, у 1921-22 гаду была дазволена адначасовая высячка 2-х гадовае лесасекі.

Увесь гэты час лесанарыхтоўкі ня мелі ніякага парадку. Усякі ехаў у лес тады, калі яму хацелася і сек тое, што падабалася, кідаючы там жа ўсё, што не было патрэбна. Такім чынам, каля 1/3 высечанае драўніны засталося гнісьці на месцы не распрацаванай.

Дзякуючы і самачынным высечкам мясцовага насельніцтва, якія у малалесных акругах, як Слуцкая, Менская і Аршанская, шмат лясных дачаў было зусім зьнішчана.

Засушлівыя 1920 і 1921 г. г. адзначаюцца значнымі ляснымі пажарамі, якія зьнішчылі дзесяткі тысяч дзесяцін маладнякоў і пашкодзілі каля 70 проц. хваёвых дрэвастанаў.

Па прыблізнаму падліку з 1914 па 1922 год у лясох Беларусі высячана драўніны ня меней 15 мільёнаў куб. саж., што па пераводу на плошчу дае 23 гадовых лесасекі; гэта значыць, высячана наперад ня менш, як на 14 гадоў. Наогул, гэты час цяжка адазваўся на лясной гаспадарцы Беларусі. Дасягненьнем трэба лічыць нацыяналізацыю ўсіх лясоў і тое, што лясная гаспадарка выканала прад'яўленыя да яе патрабаваньні рэвалюцыі і гэтым дапамагла замацаваньню яе заваяваньняў. Ня дарма Ленін казаў: „Лясы выратавалі цягнік рэвалюцыі".

**М. Мільляна.**

**Адказы на пытаньні.**

*Кастусю Аляхновічу.* (в. Мыльніца, Барысаўск. акр.). Куды трэба зьвярнуцца сялянам, каб палучыць бясплатнага лесу на школу, калі лесу мясцовага значэньня ў сялян няма.

*Адказ*: У раённую лясную камісію (гл. яшчэ адказ).

*Пётру Патапейку.* Ці мае права Л-ва забараніць сялянам пасьвіць скаціну на тэй сенажаці, дзе да гэтага часу не забаранялі.

*Адказ:* Мае права; пры здачы сенажаці ў арэнду і скарыстаньні лясьніцтнам.

*Рудакоўскаму В. А.* (в. Русакі Грэскага р.). Ці можна адвесьці сялянам 170 дзесяцін лесу, які ўрэзваецца ў поле нашай вёскі (13 гападароў).

*Адказ.* Як відаць геты лес прымыкае да ляснога масыву, чаму і ня можа быць перадан ў лясы мясцовага значэньня. Падругое, такая перадача ўжо спынена.

*Селяніну з Пукаўскага с./с.* Куды зьвярнуцца, калі сяляне пасуць скаціну на могілках і нішчаць іх.

*Адказ:* Гэта пытаньне на месцы можа вырашыць лясьнічы. Зьвярнецеся да яго.

*М. А. Новасаду.* (в. Мацеевічы Пухаўскі р.). Ачыстку лясной дзялінкі я ўмовіўся зрабіць за 5 р. (і зрабіў), а расцэнка на яе была 11 р.

*Адказ:* Зьвярнецеся ў РВК, куды пераслалі вашу заяву.

*Кастусю Аляховічу.* Сад і гумнішча знаходзяцца ў агульным карыстаньні, хаця гаспадаркі ўжо падзеляны 20 год.

*Адказ*: На пастанову акруговай зямельнай камісіі можна прынесьці скаргу ў Асобую Калегію Вышэйшага Кантролю. Апрача таго, па гэтай справе лепш усяго кончыць спрэчку згоднай бяз суда, а калі згоды дасягнуць немагчыма, дык можна аб сплаце за палепшаньне зямлі прад'явіць іск у раённую зямельную камісію, калі спрэчка ідзе паміж членамі аднае гаспадаркі і ў Народны суд, калі судзяцца члены розных двароў.

*Селяніну Жураўчыку.* Паведамленьне аб курсах па агнятрываламу будаўніцтву ва ўсіх акругах пачынаецца з чэрвеня м-ца; тэрмін навучаньня 1—$1^1/_2$ м-цы. Курсы праводзяцца на паказальных будынках і маюць галоўным чынам практычны характар. Даведкі можна атрымаць у АКРЗА; курсанты атрымаюць у дапамогу на харчаваньне 60—70 к. у дзень.

# Палявая гаспадарка

## Догляд за караньплодамі пасьля пасеву.

З самой назвы „караньплоды“ відаць, што гэта расьліны, якія даюць на карысьць чалавеку свае карэньні. Раз гэта так, то гаспадару трэба клапаціцца аб тым, каб даць гэтым карэньням найлепшыя ўмовы для іх росту.

Кожнаму селяніну вядома расьліна бульба, якая належыць таксама да групы асыпных расьлін, але яна адрозьніваецца ад караньплодаў. У караньплодаў (турнэпса, буракоў, морквы, бручкі і інш.) карыснаю часткаю зьяўляецца корань, а ў бульбы клубяні (бульбіны), якія зьяўляюцца зьмененым падзельным сьцяблом. У адным яны падобны, бо бульбіны і караньплоды растуць у глебе.

За бульбаю пасьля пасадкі кожны селянін даглядае—барануе, асыпае і інш.

Цяпер-жа з кожным годам пашыраецца і пасеў кармовых буракоў, морквы, турнэпсу і інш. Часта яны не даюць належнага ўраджаю толькі за тым, што няма належнага догляду за імі пасьля пасеву.

У гэтым артыкуле каротка і будзе сказана аб тым, які догляд патрэбен за караньплодамі пасьля іх пасеву.

Догляд за караньплодамі ў агульным можа праводзіцца для такой мэты: 1) пульхненьня паверхні заплываючай глебы, якая звычайна робіцца пасьля дажджу, асабліва на западлівых месцах, 2) зьнішчэньня сорных расьлін, 3) прарываньня ўсходаў і 4) барацьба са шкоднікамі караньплодаў.

На барацьбе са шкоднікамі караньплодаў мы застанаўляцца ня будзем.

Механічная апрацоўка глебы (як баранаваньне, асыпаньне і інш.) паміж расьлінамі ручнымі і коннымі матыкамі і прарываньне ўсходаў зьяўляюцца тымі мерамі, які прыводзяць к належным і добрым вынікам.

Задачы мэханічнай апрацоўкі накіраваны да трох галоўных пунктаў: 1) мэханічнае павярхоўнае пульхненьне не дазваляе глебе заплываць на паверхні і спрыяе праходу ў глебу паветра, якое так неабходна для карэньняў расьліны і для нармальнага ходу ўсіх зьяў, якія адбываюцца ў глебе (хімічныя зьмены, праца мікробаў і інш.), 2) пульхненьне глебы затрымоўвае ваду і зьмяншае выпарваньне вады з паверхні глебы і зьнішчае сарніны.

Задачай прарываньня ўсходаў будзе—даць належную адлегласьць паміж расьлінамі і заставіць расьліны па адной, бо калі яны сядзяць па дзьве і больш поруч, то пераплятаюцца і мяшаюць адно другому расьці.

Калі гаспадар будзе разумець значэньне апісаной мэханічнай апрацоўкі глебы, то ён заўсёды будзе ведаць, што і калі трэба рабіць, каб палучыць належны ўраджай кораньплодаў.

Пасьля пасеву караньплодаў першай працай зьяўляецца матыкаваньне, каб разьбіць заплыўшую паверхню глебы. Матыкаваньне можа рабіцца пасьля ўсходу ці раней, але ў апошнім выпадку матыкаваньне трэба рабіць асьцярожна, каб не папсаваць радкі з кораньплодамі. У такім разе з насеньнем кораньплодаў высеваюць у нязначную колькасьць аўса, які скора ўсходзіць і адзначае радкі, дзе пасеяны кораньплоды. Гэта часьцей робіцца на глебах западлівых, якія надта скора заплываюць.

Першае матыкаваньне робіцца звычайна мелка, а другое і далейшае больш глыбокае. Матыкаваньне ня можа рабіцца менш, як 3 разы, рэдка 5-6 разоў. Матыкаваньне робіцца тады, калі заплывае глеба і зьяўляюцца сорныя расьліны.

Пасьля першага матыкаваньня ідзе прарываньне ўсходаў; яна робіцца некалькі разоў. Першы раз прарываюць і застаўляюць па аднэй расьліне не заўважаючы на адлегласьць паміж расьлінамі, далей прарываюць на палову тэй адлегласьці, якая патрэбна для гэтай расьліны і ў апошні раз прарываюць праз адну расьліну, пасьля чаго выходзіць нармальная адлегласьць паміж расьлінамі.

Такое паступовае прарываньне гарантуе ад выпадковых здарэньняў, як шкоднікі і інш., у першы пэрыяд разьвіцьця кораньплодаў.

Апошні раз прарываюць тады, калі разгорнуцца 4-5 лісточкаў і корань будзе таўшчынёю з саломіну.

Калі кораньплоды падрасьлі, то можна рабіць асыпку іх, як бульбы, але толькі трэба асьцерагацца, каб не засыпаць раставых пучкоў і не паламаць лісьце.

У сухіх месцах асыпку трэба рабіць асьцярожна, бо яна павялічвае выпарваньне вады з глебы.

Догляд за кораньплодамі павінен быць закончан к таму часу, калі лісьце суседніх радкоў пачынае змыкацца. У гэты час лісьце зацяняе глебу і не дае расьці сарняком.

Такі прыблізна догляд робіцца за ўсімі кораньплодамі пасьля іх пасеву, з малым ухілам у той ці другі бок у залежнасьці ад расьліны.

П. Т.

---

## „Уплатнёныя“ севазвароты на Беларусі.

*(Па матар'ялам часопісі „Плуг“)*

Пад „уплатнёнымі“ севазваротамі разумеюць звычайна такія севазвароты, калі мы зьбіраем у год больш, як адзін ураджай.

У Беларусі, дзе клімат даволі мяккі і вільготны, можна ставіць і разьвязваць гэта пытаньне. Праца ў гэтым кірунку вельмі патрэбна. „Уплатнёнымі“ севазваротамі часткаю мы вырашаем і набалеўшае ў нас пытаньне перанасяленьня.

Важна, што тут амаль не патрэбна дадатковых тратаў капіталу, а справа ідзе аб дадатковым улажэньні працы, чым мы часьцей забясьпечаны.

Што-ж гаворыць практыка нашых сялян, якія спрабавалі зьбіраць больш, як адзін ураджай у год. Наколькі гэта ім удалося і якія ў іх былі вынікі, я і скажу далей.

Сяляне вёскі Прысыпак, Узьдзенскага р. Менскай акр., Ігнат Давідчык, Базыль Шыдлоўскі, Адам Козіч і інш. сеялі лубін пасьля жыта, як угнаеньне пад ярыну і, як яны адзначаюць*), вынікі ў іх былі зусім добрыя: авёс і бульба далі ўраджай, як і па гнаю. „Праўда бульба па лубіну была трохі драбнейшай, чым па гнаі, але ўраджай быў ня менш“, гаворыцца далей. Іншыя сяляне в. Прысыпак ня сеюць лубіну ў аржоньні толькі затым, што там пасецца жывёла.

На полі, нічым незанятым, мы трацім праз вымываньне дажджамі многа пажыўных сокаў, якія пападаюць у глыбейшыя слаі глебы або ў грунтовыя воды і гінуць для нас беззваротна.

Паша скаціны і дзясятай долі ня дае таго, што мелі-б мы, калі-б пасеялі тут выку з аўсом або сэрадэлю.

Узараўшы іржышча, мы даём магчымасьць прарасьці сарняком і далей баранаваньнем іх нішчым і тым ачышчаем поле ад насеньня сарнін. Вось чаму кожны руплівы гаспадар і павінен мелка ўзараць іржышча ў дзень жніва ці назаўтра пакуль зямля ня зьбіта і не прасохла. Папар-жа кожны лічыць патрэбным узараць, а гэта такі-ж папар толькі ня першай, а другой паловы лета. Уплыў гэтых папароў аднолькавы. Вось чаму ня добра робяць сяляне, калі яны дзеля пашы жывёлы ня ўзорваюць своечасова папару або ня ўзорваюць поле зараз-жа, як сажнуць жыта, ячмень і інш.

Аднак паглядзім, хто з сялян яшчэ выкарыстоўваў іржышча, або хто зьбіраў больш аднаго ўраджаю за год і аб выніках сваёй працы пісаў у „Плуг“.

У № 2-м за 1926 г. на стар. 4 селянін з *в. Дуброўна Аршанскай акр.* Т. Апет расказвае, як у адно лета ён зьняў тры ўраджаі і атрымаў з дзесяціны 5 тыс. руб. (атрымаў-бы: ён заняў пад свой досьлед толькі 10 кв. саж. і сабраў ураджаю на 21 руб.). А зрабіў ён гэта так: на вучастку, дзе была пасеяна раньняя бульба-скарасьпейка, ён паверх пасеяў капусную расаду. Пакуль падрасла бульба, ён выбраў і прадаў 4 тыс. расады на 8 руб. 50 кап.; далей-жа 1-га ліпня ён выкапаў бульбу і прадаў яе па 1 руб. за пуд; узяў 10 руб. Пасьля гэтага да восені тут яшчэ нарасло турнэпсу 10 пуд. (25 к. пуд.). на 2 р. 50 к. Як бачыце, хлусьні тут няма: разьлікі, як у аптэцы.

Мы думаем, што гэта цяжкавата правесьці на вялікай плошчы, але калі-б мы з дзесяціны пачалі атрымоўваць хаця адну дзясятую таго, што атрымаў Апет (500 руб.), дык і гэта добра.

Яшчэ прыклад пра два ўраджаі ў лета.

Бяру „Плуг“ № 12—1926 г. На стар. 22 сел. Сялюкін піша: „Лён, як пажніўная расьліна“ (Мяжа, Віцебскай акр.),

Селянін расказвае, як ён пасьля прыборкі жыта заараў поле і пасеяў лён, а яго суседзі Драздоў пасееў гарох на корм і Іваноў—выкааўсяную мешаніну. Нават ня гледзячы на тое, што яны спазьніліся сеяць амаль на два тыдні (позна атрымалі „Плуг“, а раней аб гэтым ня ведалі), вынікі ад пажніўных культур усё-ж такі ў іх былі добрыя. Лён выйшаў мяккі і прыгожы, трохі слабейшым, як звычайна, але Сялюкін думае, што ён яго перамачыў. Драздоў на 125 кв. саж. сабраў каля 20 пуд. сена. Іваноў Хвёдар на 76 кв. саж. набраў 11 пудоў добрага сена.

*) Гл. „Плуг“ № 7 стар. 7, 1925 г.





Вядомы нам ужо Т. Апет у № 11 „Плуга“ за 26 г. апісвае, як земляроб Арон Равін сабраў перш на сена выку з аўсом і ў канцы ліпеня пасеяў бульбу. У кастрычніку ён усё-ж такі пасьпеў сабраць 600 пуд. бульбы з 1/2 дзес.

У артыкулах агр. П. Сяргейчыка („Плуг“ № 5, 1925 г. стар. 17) В. П. Жывана „Паджніўны і падсяўны лубін (№ 5 стар. 12) і С. Тупяневіча „Здымайце два ўраджаі ў адно лета („Плуг“ № 6, 26 г.) дасканала расказана аб тым, як сеяць пажніўныя расьліны, колькі браць насеньня і г. д.

Я-ж адразу перайду да тэмы аб „уплатнёных“ севазваротах. Прывяду найбольш просты севазварот, які паміж іншым мне даводзілася часта сустракаць у сялян Бабруйшчыны (напрыклад, у Рахаўца Івана сяло Слаўкавічы Глускага р.). Севазварот мае такую схэму:

1) Папар заняты
2) Жыта
3) Асыпныя
4) Ярына

Першае поле ў гэтым чатырохпалёвым севазвароце напалову займаецца выкай з аўсом, а другая палова—канюшынай. Пасьля іх добра парасьце жыта, іржышча якога павінна быць выкарыстана пажніўнымі або падсеўнымі культурамі.

Пасьля жыта (або лепей кажучы пасьля пажніўных культур, якія кожны гаспадар сам выбярэ) мы пасеем бульбу. Як ужо вядома, пасьля пажніўнага лубіну бульба расьце бяз гною, а загэтым адвесьці пад бульбу і караньплоды чвэрць усяго поля ня страшна, асабліва калі памятаць словы праф. Пранішнікава, што ў бульбе мы зьбіраем утрое большы ўраджай супроць зярновых.

Пасьля бульбы-скарасьпелкі, калі яе выгадна прадаць у ліпені м-цы, варта абавязкова засеяць поле выкай з аўсом або лубінам ці чым-небудзь іншым.

На наступны год пасьля асыпных мы палетак займаем ярыною, прычым пад палову ярыны падсяваем канюшыну і карыстаемся ею 1 год у папары. Калі-ж хто хоча касіць канюшыну два гады, то яе тады сеюць у бульбяным полі побач з ярыною, а частку бульбы можна выносіць у яравую зьмену. Пад тую ярыну, дзе не падсеена канюшына, мы падсяваем сэрадэлю або выкарыстоўваем поле, як і звычайнае іржышча.

Такім чынам, калі паказаць гэты севазварот у табліцы, дык мы будзем мець наступнае:

| Гады | I-я зьмена | II-я зьмена | III-я зьмена | IV-я зьмена |
|---|---|---|---|---|
| 1928 . . | Выка з аўсом канюшына | Жыта з пажн. і падсеўн.расьлін. | Бульба | Ярына з канюш. Ярына з сэрад. |
| 1929 . . | Жыта (пажн. і падсеўн.расьлін) | Бульба (пасьля раньн. выка) | Ярына з канюш. Ярына з сэр. і інш. | Канюшына,выка з аўсом |
| 1930 . . | Бульба | Ярына з канюш. ярына з сэрад. | Канюшына,выка з аўсом | Жыта |
| 1931 . . | Ярына з канюш. Ярына з сэрад. | Канюшына выка з аўсом | Жыта | Бульба |
| 1932 . . | Канюшына выка з аўсом | Як у 1928 г. | Як у 1928 г. | Ярына з сэрад. Ярына з канюш. |

Сёлетні год павінен быць шырока выкарыстан селянамі (асабліва дасьледчыкамі) дзеля працы ў паказаным кірунку. Павінна быць высьветлена шэраг запытаньняў дзеля магчыма поўнага і разумнага выкарыстаньня сілы зямлі і энэргіі сонца.

Тэмамі дзеля досьледаў могуць быць наступныя:

1. Што выгадней: лубін пажніўны ці падсеўны (у гаспадарцы майго бацькі лубін падсеўны ў мінулым годзе даў лепшыя вынікі—нарасло да 2 тыс. пуд. сырой масы на дзес.).

2. Якія пажніўныя расьліны даюць больш карысьці.

Аб выніку гэтай працы пажадана было-б напісаць у „Плуг".

А. Дзіковіч.

---

# Як дабываю я корм у сваёй гаспадарцы.

Я малады гаспадар. Атрымаў у пасёлку пустой зямлі $5^1/_2$ дзес. і 0,77 дзес. балотнай сенажаці. Укос 70 пуд. з дзес. Зямля тут праз 15 гадоў ня бачыла гною і ня мела правільнага севазвароту, бо яна здавалася сялянам на часьць пад зернавое збожжа.

Атрымаўшы ў 1922 г. зямлю, скажу праўду, і я разьбіў яе на трохпольле, бо так рабілі ўсе старыя суседзі. Так я прагаспадарыў 2 гады. У 1923 г. зімою я купіў першую кніжку па сельскай гаспадарцы (пад назвай „Знание—сила". Масква 1923 г).

Прачытаўшы гэту кнігу, мяне ўзяла ахвота завесьці гаспадарку па новаму, як раіць навука. Я зразумеў, што на трохпольцы жыць далей нельга, што зямля ў нас спустошана толькі аднастаронна, гэта значыць многа гадоў сеялася адно збожжа.

Я па кніжцы пачаў выбіраць сабе такі севазварот, які лепей падыходзіў-бы к нашым мясцовым умовам. І таму, што ў мяне няма выгана, а жывёлагадоўлю я рашыў паставіць на першым пляне, па замежнаму, дык тут больш падышоў травяны 7-мі польны севазварот. Гэты севазварот дазваляў больш сеяць траў, кораньплодаў і менш зярнавых расьлін. Пры травапольным севазвароце куды выгадней весьці жывёлагадоўлю. Тут да позьняй восені ёсьць зялёны корм і вясною ня трэба паглядаць, ці скора сьнег растане.

Мой севазварот з такім чаргаваньнем:

1-я зьмена лубін на зялёнае ўгнаеньне пад бульбу з падсевам у лубін сэрадэлі, бо лубін на зіму не заворваецца і сэрадэлю позна ўвосень добра скарыстаць пад выпас.

2-я бульба па лубіну і паўгною[1]),

3-я авёс з падсевам канюшыны,

4-я канюшына 1 г. на ўкос,

5-я канюшына 11 г. на выпас,

6-я жыта на канюшынішчы пасьля выпаса з поўгноем і падсевам сэрадэлі.

7-я ярына, лён, кораньплоды, сэрадэля.

Апрача гэтага, я яшчэ маю 8-ю зьмену—гэта травяна-гародны клін, дзе я сею кораньплоды, выку, капусту.

Пры такім севазвароце я маю даволі корму для жывёлы.

---

[1]) Бульба і кораньплоды займаюць $^1/_4$ усёй плошчы пахаці.

Жывёлагадоўлю вяду па дацкаму спосабу: зімою кармлю па нормах, а летам паша на прывязі. Агульную пашу на балоце вывеў. З вясны падкармліваю спажыўным кормам пакуль вырасьце выка ды канюшына. А калі ўжо даволі зялёнага корму ў гаспадарцы, дык кармлю зялёным кормам. Выгада ад такога ўтрыманьня вялікая. Першае, ня трэба асобнага пастуха. Другае, на палову больш ўдой малака, чым пры агульнай балотнай пашы. Трэцяе летні гной застаецца ў сваёй гаспадарцы. Чацьвёртае, скаціна сама па сабе мае лепшы выгляд; яе лепш прадаць увосень, а то і паставіць на зімняе ўтрыманьне.

Выходзіць, што кавалак поля, які дае падкормку жывёле, аплоціцца на многа вышэй, чым засеяўшы яго зярновым збожжам, а жывёлу трымаць на балотным выпасе.

Раю гаспадаром узяць і скарыстаць мой прыклад і трохі разьбірацца, як выгадней пракарміць жывёлу. Бяскорміца кідае селяніна вясною ва ўсе бакі. А каб абыйсьці гэту бяду—бяскорміцу, дык ёсьць зусім прамая дарога.

Трэба пачаць чытаць кніжкі па сельскай гаспадарцы, ды пераходзіць на шматпольле, калі гэта мы зробім, дык лёгка будзе паправіць нашы сенажаці, якія даюць нам малыя ўкосы.

Я толькі ў 1923 г. купіў першую кніжку, а сёньня маю ўсе №№ часопісі „Плуг“ і яшчэ 60 кніжак па ўсіх галінах сельскай гаспадарцы.

З дапамогаю кніжак бяскорміцу я прагнаў раз і на заўсёды. Кніжка гаспадару дапамагае так, як пуга пастуху ў полі. Хто чытае с-г. кніжку, хутчэй будзе знаць, як гаспадарыць.

**Сел. К. Запольскі**

(Пасёлак Калодзішкі, Сьмілаўскі р.)

---

# Як атрымаць сена і насеньня канюшыны ў адно лета.

Для сялянскай гаспадаркі кожны год трэба насеньне канюшыны ад 35 да 60 фун. Насеньне купляць кожны год нельга, ды не заўсёды яно ёсьць у продажы. А канюшыну сеяць трэба. Без канюшыны няма добрага корму для жывёлы зімою.

Насеньне канюшыны трэба гадаваць у сваёй гаспадарцы. Меўшы сваё насеньне, селянін забясьпечаны і ня трэба вясною траціць сродкі на яго куплю. Выгадаванае насеньне ў сваёй гаспадарцы больш прывычна да нашага клімату і глебы. Купленае-ж насеньне часта бывае з павілікаю, а гэта самы большы вораг канюшыны.

Каб атрымаць 35—60 фун. насеньня канюшыны, трэба пакінуць кавалак у 200—400 кв. саж Канюшына першага году карыстаньня і першага скосу дае мала насеньня з-за таго, што буйна расьце, густая і ў час красаваньня вылягае. Такую канюшыну лепш скасіць на сена, а на насеньне пакідаць канюшыну з атавы (так робім мы). Дзеля гэтага мы выбіраем, дзе канюшына радзейшая і косім першы ўкос на сена раней, калі толькі канюшына пачынае красаваць. Гэта робіцца дзеля таго, каб даць большы час для росту атавы. Косім канюшыну прыблізна каля 15—25 чэрвеня нов. стылю.

Атава хутка ідзе ў рост і дружна зацьвітае. Насеньне зьбіраецца значна больш, чым з першаукоснае канюшыны. Тут двайная выгада: першае, што накосім сена з першага ўкосу, а з атавы маем больш

насеньня. Але пакідаючы на насеньне канюшыну першаго скосу, за ёю трэба наглядаць. Трэба глядзець, ці не зьяўляюцца вельмі рана пажаўцеўшыя галоўкі канюшыны. На першы погляд такія галоўкі створаць думку, што канюшына ўжо высьпела. Але ўзяўшы такую галоўку і расьцершы яе на далоні можна бачыць, што ў ёй няма насеньня. Пры асьцярожным расьціраньні можна ўбачыць жаўтаватага чарвячка з чорнаю галоўкаю. Вось гэтыя чарвячкі і шкодзяць насеннай канюшыне.

Калі шмат зьявіцца такіх рана пажаўцелых галовак, то лепш насенную канюшыну (першага ўкосу) скасіць на сена, бо ў ёй будзе мала насеньня. У атаве гэтага не наглядаецца.

З гэтым зьявішчам трэба лічыцца заўсёды, каб не застацца без насеньня канюшыны.

На правільна выбраным вучастку канюшына павінна добра стаяць і мець шмат вялікіх галовак.

Пры гадоўлі насеньня канюшыны з атавы гаспадар атрымае двайную карысьць: першы ўкос дасьць яму сена, а другі—насеньня канюшыны. З атавы 1 дзес. можа даць да 12 пудоў насеньне канюшыны. Пакідаць канюшыну на насеньне вельмі сходна. Можна за праданае насеньне канюшыны купіць для жывёлы макухі або атрубей.

Дзесяціна насеннае канюшыны дае даходу каля 250 руб. ды і з першага ўкосу можна накасіць пудоў 80—120 канюшыннага сена.

(х. Сарачынава).

Сел. А. **Каранейчык.**

---

# Пра палявых мышэй.

За апошні год у Беларусі зьявіліся палявыя мышы ў досыць вялікай колькасьці. Гэта паказвае, што мышы пачынаюць распаўсюджвацца і могуць пры спрыяючых умовах зьявіцца ў масавай колькасьці.

У гады мышынай напасьці гіне амаль увесь ураджай. Такія гады на Беларусі бывалі. Каб не паўтарылася гэта ў будучыне, сельскі гаспадар павінен быць уважлівым і паведамляць аграномa, калі ўбачыць на сваіх палёх або ў садзе шмат мышэй. Толькі арганізуючыся можна весьці барацьбу з гэтым ворагам сельскае гаспадаркі.

Палявыя мышы жывяцца расьліннаю ядою. Жывуць у зямлі, дзе на глыбіні $^1/_2$ арш. робяць гнёзды, якія з паверхняй злучаюцца ходамі. Палявыя мышы могуць жыць на закінутай зямлі, але і глыбокае ўзорваньне поля ня можа пашкодзіць мышыныя гнёзды. Палявыя мышы і зімою капаюцца пад сьнегам і шкодзяць азіміну.

Палявыя мышы—вялікія шкодні і, яны шкодзяць увесь час: высее селянін насеньне, як зараз-жа мышы накідваюцца на яго і пачынаюць жэрці; зазелянее рунь, мышы шкодзяць, як лісьце, так і сьцяблы; закаласіцца збожжа, мышы валочаць у свае норы каласы з зярнятамі. Кожная мыш за адзін год зьядае да 10 фунтаў зярнят, травы і інш. Дзьве-тры тысячы мышэй на 1 дзес. могуць зусім зьнішчыць ураджай.

Палявыя мышы хутка плодзяцца. Ужо з раньняй вясны самка пачынае штомесячна даваць патомства 6—8 мышатаў, якія праз месяц робяцца здольнымі таксама пладзіцца. Вось чаму, калі стаіць добрае

надвор'е і досыць корму на полі, дык мышэй увосень можа быць шмат. Пагэтаму, калі ўбачыш мышэй, пачынай з імі барацьбу зараз-жа. Барацьба з мышамі ня цяжка і дзяшова.

Як-жа змагацца з мышамі? Лепш за ўсё з палявымі мышамі змагацца раскладаньнем па норках кавалкаў печанага хлеба, атручанага мыш'яковіста-кіслым натрам (атрута). Добра выпечаны хлеб (жытні або пшанічны) разрэзваюць на маленькія кавалькі (1 куб. см.). З аднаго фунта хлеба выходзіць ня менш 1000 кавалкаў. Яны кладуцца на драцяную сетку і апускаюцца на некалькі мінут у раствор з атрутаю. Атрута прыгатаўляецца такім чынам: бяруць мыш'яковістакіслага натру (парашок) адну частку і раствараюць яго ў 30—35 такіх-жа частках вады, пры гэтым у раствор дадаюць адну частку цукровага пяску альбо мёду ці сьвежай патакі. Пратручаныя кавалкі раскладаюцца па норках. Каб ня страціць дарма атручанага хлеба, належыць класьці яго ў жылыя норы, апошнія лёгка адрозьніваюцца ад няжылых так: за адзін дзень да раскладаньня хлеба трэба затаптаць норы і на другі дзень будуць зноў адчынены толькі жылыя норы.

Лепш за ўсё вясьці барацьбу вясною. Зьнішчаць мышэй трэба ня толькі на палёх, але і на ўсіх астатніх землях, адкуль яны могуць перайці на пасевы.

Страта на барацьбу з мышамі апісаным спосабам не вялікая. Зьнішчэньне мышэй у 250 норах каштуе ўсяго толькі адну капейку.

Змагацца з мышамі можна і пры дапамозе мышынага тыфусу, але гэты спосаб дарагі і ім звычайна карыстаюцца для зьнішчэньня хатніх мышэй. Трэба заўважыць, што палявыя мышы шкодзяць ня толькі ў палёх, але могуць пераходзіць у сады і шкодзіць пладовым дрэвам.

Каб захаваць сады ад мышэй, будзе добра, калі ўвосень акапаць сады са ўсіх бакоў канавамі са скацістымі бакамі. Калі мышы ў садзе зьявяцца ў вялікай колькасьці, то трэба зараз затаптаць сьнег навакол дрэў. Гэта робіцца для таго, каб мышам нельга было капацца пад сьнегам.

Усё гэта пра мышэй трэба помніць на ўсякі выпадак, каб ня даць магчымасьці ім пашырацца, як вялікім шкоднікам сельскае гаспадаркі.

Б. Бранцаў.

Г. Курск.




# Вопыт падсеву лубіну пад жыта.

Першы раз зьявіўся лубін ў нашай вёсцы перад вайной. Адзін гаспадар дастаў некалькі фунтаў яго насеньня і пасеяў на самай лепшай ніве. Але нешта так пашкодзіла лубіну, што ён вышэй пальца ня вырас. Гэты гаспадар прабаваў там сеяць лубін і на другі год, але вынікі былі ня лепшыя леташніх. З таго часу ўсе сяляне махнулі на лубін рукою.

Праўда, глеба ў нас, голоўным чынам, падзолістая. Дзе-ні-дзе сустракаецца супяшчаная.

У 1923 годзе выпадкова прышлося дастаць мне пудоў 10 насеньня лубіну. Выбраў я лёгкую глебу і пасеяў, але дзякуючы таму, што да гэтага часу з лубінам я ніякіх спраў не меў, дык насеньне папалася мне чуць ня ўсё гнілое: усходы вышлі рэдкія. Ня можна было пахваліць узрост яго. На карэнчыках было мала наростаў.

На другі год я таксама дастаў пудоу 15 лубіну і пасеяў яго на папары. Засталося пуды 3, якіх я не ведаў куды дзець, бо ўжо ня было месца дзе пасеяць. Падумаўшы крыху, схаваў насеньне ў сухое месца, а калі дачакаўся той пары, як закрасуе жыта, узяў яго і рассеяў проста па жыту. Праўда сеяў я яго на тым месцы, дзе летась быў ня ўдалы лубін, а час такі выбраў, калі ішоў дождж. Я не спадзяваўся, што з гэтага выйдзе якая-небудзь карысьць.

Праз некалькі дзён насеньне парасло і пусьціла карэнчыкі ў зямлю. Але да самага жніва рост лубіну быў вельмі кепскі. У час жніва толькі некаторым расьлінам прыходзілася адцінуць вярхі, а ўсе другія заставаліся ў іржышчы. Але праз два тыдні выгляд палоскі зусім зьмяніўся: лубін стаў шпарка падымацца ўверх, кусьціца, а праз паўтара месяцы разросься так, што нельга было перайці праз яго. Карані глыбока разрасьліся ў зямлі і былі багата асыпаны рознай велічыні „бульбінкамі“ (наростамі). Пры заворваньні адзін конь ня змог цягнуць плуг, ня гледзячы на тое, што зямля рассыпалася, як пясок. Скародзіць поля ня прыходзілася, бо на ворыве ня было звычайных для жытняга іржышча стоптаных скацінай глыб.

З пад сьнегу палоска вышла вельмі прыгожая ў той час, калі суседняя асеньняя ўспашка заплыла. Пасьля лубіну-ж глеба была мяккая, як пух.

Пасьля таго, як падсохла зямля, я лубянішча заскарадзіў і пацярушыў кароўім гноем (800 пуд на дзес.). На гэтай самай палосцы дзе ня было лубіну паклаў гною 2400 пуд. на дзесяціну. На абодвых кавалках пасеяў бульбу.Розьніца палучылася вялікая: па лубянішчы гранкі аж палопаліся; бульба вышла чыстая і чуць не ўдвайне больш, чым з вучастку, дзе быў адзін гной.

У гэтым годзе па бульбянішчы пасеяў выку і таксама з лубянішча накасіў сена чуць ня ў паўтара разы больш.

У 1925 годзе я зноў падсеяў лубін пад жыта і вынікі былі добрыя. Бульба на гэты раз (1926 год) па лубянішчы аддзялілася ад суседніх палосак, ня гледзячы на тое, што на гэтых палосках пад бульбу клаўся гной. Асабліва выдзялілася некалькі гранак, дзе апрача лубіну падсыпаўся і попел. Ярына па лубянішчы была большая і зялянейшая.

Падлічыўшы тую працу і расход, які патрабуе для сябе пасеў лубіну пад жыта, а таксама тую карысьць, якую ён дае гаспадару, магу сьмела сказаць, што карысьць ад такога падсеву вельмі вялікая асабліва ад бульбы. Трэба толькі падсеў рабіць на такім полі, дзе ўжо некалі быў лубін і глеба ўжо заражана.

Для пасеву трэба выбіраць такі час, каб сеяць пад дождж: тады амаль кожнае зярня ўзыдзе.

Ужо ёсьць шмат сялян, якія адказаліся ад тэй думкі, што глеба наша лубіну ня прымае; і цяпер яны разводзяць лубін, які расьце досыць добра. Некаторыя-ж у гэтым годзе таксама пасеюць лубін пад жыта.

П. Самцэвіч.

(в. Дакудава Крупскага р.
Барыс. акр.).

---

# Лубінавая мука, як угнаеньне.

У мінулым годзе на хутары Сарнаполь Полацкай акругі быў пасеяны лубін 20-га мая. Гаспадары хацелі атрымаць уласнае насеньне, але ў канцы жніўня зьявіліся раньнія марозы і лубін не дасьпеў. Зялёнай масы было пудоў 800. Зярна разьлічвалі атрымаць звыш 100 п., асобныя стручкі на погляд былі сьпелыя—чорныя і набурэўшыя. Гэтыя стручкі гаспадары палажылі на гары асобна. Час ад часу лубін перамешвалі граблямі.

Астатнюю масу лубіну з слаба пабурэўшымі і зялёнымі струкамі зьвезьлі на гумно, дзе ён заставаўся да вясны.

Вясною аказалася, што лубін на гары заплесьняў. Усхожасьць яго кепская. Відаць, што насеньне з пабурэўшых струкоў папсавала зярно і з пачарнеўшых сьпелых.

У працягу зімы лубін, які быў зложаны ў кучках на гумне, давалі авечкам, якія елі яго ахвотна.

Вясною лубін быў абмалочаны. У гэты час у гаспадароў зьявілася думка змалоць лубін на муку і яе скарыстаць як угнаеньне, бо зярно лубіну мае шмат азоту. Тры пуды лубіну замяняюць 1 пуд салетры. Гаспадары парашылі спрабаваць лубінавую муку, як угнаеньне, і зьвярнуліся на Новазыбкаўскаю вопытную станцыю з пытаньнем: *„ці карысна ўгнайваць бульбу лубінавай мукою“*. Станцыя адказала, што карысна. Тады мы насеньне змалолі і пры пасадцы бульбы падсыпалі жменьку мукі пад кожную бульбіну.

Вынікі палучылі вельмі цікавыя. Бульба на лубінавай муцэ была зялянейшая, а бульбіны дасягалі да 11 сант. даўжыні, 7 см. шырыні і 6 таўшчыні. Наогул, ураджай быў добры.

Няхай-жа не клапацяцца тыя, у каго лубін папсаваўся. Сапсаваны лубін можна перамалоць і скарыстаць, як угнаеньне. 150 пуд. лубінавай мукі могуць замяніць 50 пуд. салетры. У зёрнах лубіну мы маем азотнае ўгнаеньне.

Сел.-дасьледчык **Шасьцітка.**

---

# Уплыў калійнай солі на караньплоды.

Яшчэ ёсьць шмат такіх сялян, якія нават і слухаць ня хочуць аб мінэральных угнаеньнях для ўжываньня іх на палёх. Яны кажуць, што калі і ёсьць добрыя ўраджаі ад мінэральных угнаеньняў, то гэтыя глебы мабыць не такія, як нашы. Вопыт гаворыць зусім іншае. Вясною 1926 г. мною быў закладзен дасьледчы вучастак з мінэральным угнаеньнем у селяніна Рабцава Фядула, члена Авіяхіму. Бралася калійная соль разам з гноем ад жывёлы (калійная соль прыслана была Бабруйскім саветам Авіяхіму).

Глеба вучастка—ападзоленая супесь. Вучастак роўны. Быў засеяны турнэпсам і кармовымі буракамі. Досьлед меў два вучасткі па чатыры дзялянкі ў кожным. Кожная дзялянка была па 30 кв. саж. На дзялянку № 1 і 3 палажан гной (па 1 п. на 1 кв. саж.), а на дзялянку № 2 і 4 палова гною і яшчэ 8 ф. калійнай солі.

Схэма вучасткаў і вынікі досьледаў можна бачыць з табліцы.

Ураджай на 1 вучастку.

| | №№ дзялянак | Чым і як угноена | Ураджай з 1 дзял. | | Ураджай з 1 дзес. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Пуд. | Фун. | Пуд. | Фун. |
| Турнэпс | 1 | Гною 30 пуд. . . . . . | 50 | 16 | 4032 | — |
| | 2 | Гною 15 п., 8 ф. калійнай солі . | 50 | „ | 4000 | — |
| Кармовыя буракі | 3 | Гною 30 пуд. . . . . . | 51 | 12 | 4104 | — |
| | 4 | Гною 15 п., 8 ф. калійнай солі . | 54 | 20 | 4360 | — |

Турнэпс быў пасеяны на два тыдні пазьней кармовых буракоў, якія былі пасеяны ў маі м-цы (турнэпс у пачатку чэрвеня).

Такім чынам, як відаць з досьледу, калійная соль можа замяніць сабою палову гною, і яна ня дарага каштуе. Адзін пуд калійнай солі каштуе ня больш, як два рублі, а ўзмацняе ўраджай караньплодаў на 80—100 пуд. Вылічваць, колькі такое ўгнаеньне дало чыстага даходу ня трэба, бо карысьць ад яго відавочна. Адсюль мы бачым і ўдзел Авіяхіму ў сельскай гаспадарцы.

(Стрэшынскі р.). Аграном **В. Я. Анцюх.**

---

# Як мы зьнішчылі бяскорміцу.

У нашай вёсцы мелася каля 3 дзесяцін балота і было яно такое, што быдла немагчыма было пусьціць. У 1924 г. былі ў нас пры сельсавеце сельска-гаспадарчыя курсы. Праслухаўшы іх, я са сваімі дзядзькамі пачаў гутарыць аб асушцы гэтага балота. Так і зрабілі. Перш яго раскарчавалі, потым пракапалі канавы, нямнога асушылі. Асушылі, а на зіму ўзаралі і так кінулі. Вясной у 1925 годзе мы пабаранавалі звы-

чайнай бараной, потым пасеялі там выка-аўсяную мешаніну і забаранавалі жалезнай бараной.

К восені мы палучылі добры ўкос выка-аўсянай мешаніны. Пасьля скосу мешаніны зрабілі пасеў лугавых траў і ўжо ў 1926 годзе мы вызваліліся ад бяскорміцы. Засявалі мы лугавыя травы з восені.

Каштуе нам насеньне лугавых траў (працы ўжо ня лічым) усяго 50 руб. А калі мы яшчэ возьмем, што колькі мы ўсе пракармлівалі сродкаў ад бяскорміцы, то кожнаму на год абыходзілася каля 100 р. страдаўшы бяскорміцай. Цяпер нашы суседзі і ўбачылі, што можна палучыць вялікую карысьць ад балота; тут многа трудоў ня трэба і расход невялікі. Сел. **В. Місун.**

(в. Янова).

# Даглядай летам бульбу.

*(Сьмілавіцкі р. Менщчына).*

Вельмі часта можна бачыць, як некаторыя сяляне летам кепска абыходзяцца з растушчаю бульбаю. Часта зжынаюць не ў пару бульбоўнік. Калі бульбоўнік адцьвіце, дык сяляне думаюць, што можна яго зжынаць.

А вельмі кепска, хто так робіць. Мы ведаем, што бульба—жывая расьліна, якая бярэ сабе пажыву карэньнямі з зямлі, а лісьцямі з паветра. А хто зжынае бульбоўнік, у таго сьцяблы бульбы пачнуць засыхаць і ў зямлі бульбіны больш ня будуць расьці, а толькі старэюць да зімы.

Значыць, хто зжынае бульбоўнік не ўпару, той робіць сабе шкоду. Пад восень пасьля жніва таксама ня мала шкоды робіцца. Другі бывае знарок выпускае коняй на бульбу, каб яны зьядалі бульбоўнік. А жывёла толькі робіць убытак. Дзе ступіць жывёла, там гранка бульбы пралысіцца і бульбіны відаць.

Трэба запамятаць і разабрацца, што пускаць жывёлу і зжынаць бульбоўнік ня ў час—вялікая шкода. Вось чаму ня трэба гэтага рабіць.

Калі-ж можна зжынаць бульбоўнік? Хто зжынае ці косіць бульбоўнік у пару, той разумна робіць. Бульбоўнік можна зжынаць увосень і высушыць яго к зіме на корм; жывёла яго ёсьць вельмі добра. Такім парадкам к зіме можна прызапасіць і корму для жывёлы.

Але бульбоўнік трэба зжынаць тады, калі ён пачне жаўцець, пад восень. Калі некаторыя лапачкі пры зямлі падсыхаюць. Вось тады яго можна зжынаць. Тады ў зямлі бульба ўжо вырасьце і пара яе выбіраць. З. Бульбянік.

# Як ставіць досьледы з мінэральнымі ўгнаеньнямі.

У сучасны момант селянін пакідае галодную трохпалёўку і пераходзіць да больш разумнага карыстаньня зямлёю, зьбірае два ўраджаі там, дзе раней здымаў адзін. Таксама ў гаспадарцы пачынаюць ужываць і мінэральныя ўгнаеньні. Селяніна, які сам ня можа прачытаць кніжку па сельскай гаспадарцы, вясковыя дасьледчыкі павінны навучыць яго, як палепшыць гаспадарку. Навучыць паказам, вопытам.

Дзеля гэтага кожны селянін, асабліва чытач „Плуга“ павінен залажыць той ці іншы досьлед.

Я хачу параіцца з чытачамі „Плуга“ аб тым, каб гэтыя досьледы былі агітатарам за ўжываньне мінэральных угнаеньняў і інш.

Вучастак зямлі, на якім будзе заложаны досьлед трэба браць такі, каб ён усюды быў роўным—бяз ямак, равоў, схілаў. Глеба на вучастку павінна быць аднолькавая, а таксама аднолькавая вільгаць. Трэба мець на ўвазе, каб увесь вучастак у ранейшыя гады ўгнойваўся і апрацоўваўся аднолькава.

Лепш дзеля вопыта браць вучастак, на якім глеба ўжо выпахана, бо на добра ўгноеным кавалку досьлед можа ня даць добрых вынікаў.

Абраны кавалак зямлі для досьледу трэба разьбіць на дзялянкі, велічыню якіх лепш браць 60, 120, 240 кв. саж.; іх лягчэй пераводзіць на дзес. Усе дзялянкі павінны быць роўнымі і паміж сабою аддзяляцца калочкамі.

Усе дзялянкі павінны апрацоўвацца адным спосабам і адначасова.

Пасеўны матар'ял (якасьць і колькасьць) па ўсіх дзялянках павінен быць аднолькавым.

Асабліва трэба зьвярнуць увагу на прыборку ўраджаю, на ўзважваньне. З кожнай дзялянкі ўраджай трэба сабраць у адзін дзень і ў адзін дзень яго абмалаціць і зважыць, колькі вышла зярна, саломы.

Пры расьсеве мінэральных угнаеньняў трэба памятаць, каб з аднэй дзялянкі ня пыліць на другую.

Угнаеньне, па магчымасьці, раскідаць роўнамерна. Расьсяваць лепш у ціхую пагоду.

Усю працу па досьледу трэба запісваць у сшытак—калі ўзарана глеба, чым угноена, калі ўзышло, пачало каласіцца, красаваць, сьпець, колькасьць пакладзена ўгнаеньняў, а таксама і самы ўраджай.

Пры дапамозе досьледаў гаспадар можа вырашыць дзеля сябе шмат якія пытаньні. Для прыкладу прывяду наступнае пытаньне: ці можна прымяняючы ўсе тры віды мінэральных угнаеньняў—азоцістых фосфарных і калійных—павялічыць ураджай. Гэтае пытаньне можна вырашыць так:

| | 10 саж. | 10 саж. |
|---|---|---|
| 6 саж. | Дзялянка № 1 | Дзялянка № 2 |
| 6 саж. | Дзялянка № 3 | Дзялянка № 4 |

Тут кожная дзялянка ўзята па 60 кв. саж. Дзялянкі № 1 і 4 застаюцца няўгноенымі, а дзялянкі 2 і 3 угнойваюць азоцістымі, фосфарнымі і калійнымі ўгнаеньнямі.

З параўнаньня ўраджаю 2 і 3 дзялянкі з ураджаямі дзялянак 1 і 4 будзе відна, наколькі павялічыўся ўраджай ад ужываньня мінэральных угнаеньняў.

Можна было-б паказаць і другія пытаньні, напрыклад, якое з фосфарных угнаеньняў супэрфосфат ці тамасаўка, а з калійных калій ці калійная соль найбольш падыходзяць да нашай глебы.

Тут будзе толькі больш дзялянак.

Па аканчаньні кожнага досьледу трэба глядзець, як выгадна ўжываць мінэральнае ўгнаеньне. А бывае і так, што ўраджай ад яго павялічыўся, але кошт угнаеньняў даражэй прыбытку ўраджаю.

Вось усё гэта і трэба вырашаць у сваім досьледзе селяніну.

(в. Лёхава) Сел.-дасьледчык. С. Сялюкін.

# Памёр наш селькор.

Мы, грамадзяне вёскі Лёхава, Руднянскага с/с. Віцебскай акругі пахавалі нашага любімага работніка — селькора Сяргея Сялюкіна, які памёр у г. Віцебску пасьля апэрацыі брушыны 11 сакавіка 1927 г.

Тав. С. Сялюкін прывучыў нас чытаць газэту і журнал. Ён шмат працаваў у нашым Нардоме. Тав. Сялюкін нам з ахвотаю заўсёды чытаў і тлумачыў час. „Плуг“. Мы заўсёды зьвярталіся да яго з просьбай, калі нам патрэбна было напісаць заяву, выпісаць газэту.

Тав. Сялюкін быў у нас прымерным земляробам.

Просьба ад усіх сялян надрукаваць наш ліст.

**Ф. І. Патапенка.**

В. Лёхава, Межынскага р.

## Сяргей Фядотавіч Сялюкін.

Надрукованы вышэй ліст сялян вескі Лёхава прынёс вестку аб сьмерці нашага дапішчыка С. Сялюкіна. Тав. Сялюкін, здаецца, быў першым селянінам, які амаль з першага нумара часопісі пачаў над ёю ўпарта працаваць і пісаць сам. Першыя яго артыкулы былі мала апрацованы і зусім не падыходзілі да друку. Першы раз яго артыкул быў надрукованы ў „Плуг“ № 9 за 1925 г. „Лён—даўгунец“.

З гэтага часу С. Сялюкін піша і друкуецца ўсё больш і больш. На працягу аднаго 1926 году ён выдрукоўвае 19 артыкулаў (усяго надрукаваў 24). Тэмамі дзеля С. Сялюкіна былі галоўным чынам яго праца і праца сялян яго раёну над пабудовай новай даходнай і культурнай гаспадаркі.

Ён сам *уводзіць шматпольле, асушае балота, заводзіць гарод, сартовае насеньне лёну* і праз *увесь час сувязі з „Плугам“ вядзе ўпартую дасьледчую працу на сваёй гаспадарцы.*

У 1926 г. з дапамогаю рэдакцыі яму ўдалося дастаць ў раённага агранома мінэральных угнаеньняў, якімі тав. Сялюкін заклаў некалькі досьледаў, правёў іх да канца і надрукаваў у „Плугу“.

Па яго артыкулам рэдакцыя магла назіраць, як праз самаадукацыю крок за крокам рос т. Сялюкін у сваім разьвіцьці.

Тав. Сялюкін таксама шмат працаваў у Нардоме, арганізаваў „Чырвоны Куток“, чытаў сялянам газэты, журналы.

Шмат чаго яшчэ карыснага абяцаў працоўнаму сялянству малады гаспадар—здольны сялянскі хлапец (кандыдат ЛСКМБ) Сяргей Сялюкін.

За два-тры гады свае грамадзкай працы ён стаў любімцам усіх сялян сваёй вёскі і раёну.

Няхай доўга жыве ў чытачоў „Плуга“ добры ўспамін аб табе, наш дарагі таварыш!

**Рэдакцыя.**

# Ліст у рэдакцыю.

Мы, сяляне в. Бардзінаўкі II Кайкаўскага с./с. (Менскае акр.) шчыра дзякуем Народнаму Камісарыяту Земляробства за гаспадарчую літаратуру і за часопісь „Плуг“, якую прывёз нам 30 мая селькор Р. Бачыла.

**Сябры гуртка прыхільнікаў газэты.**




## Малочныя адзнакі ў цялят.

По цяляці можна пазнаць ці будзе з яго малочная карова. Перш за ўсё касьцяк не павінен быць грубы, галава павінна быць вузкай, ногі тонкія.

У добрага цяляці на ілбе паміж рагамі шэрсьць робіць віхор, бо шэрсьць з аднаго боку ідзе зьверху ўніз і на перавале спатыкае шэрсьць, якая ідзе зьнізу ўверх. Чым больш гэта заметна і чым бліжэй гэты стык да простай лініі паміж вачэй, тым лепш. Гэта адна з галоўных адзнак малочнасьці.

Вушы павінны прапускаць сьвятло чырванаватай водценьню. Шыя павінна быць вузкая, але ня худая. Плячо таксама мусіць быць вузкім, але не выпіраць вострым канцом над спіной. Грудзі не павінны быць вельмі шырокімі, а крыж трэба каб быў шырокі.

Шкура мусіць быць тонкай лёгка адцягвацца ў адзін і другі бок, а таксама ўверх. Галодныя ямкі павінны быць глыбокія, бо такая карова будзе шмат есьці і добра даваць малако.

Крыж чым большы, тым лепш. Апрача таго, ён павінен выцягвацца далёка назад, бо пад гэтай часткай таза павінна будзе вырасьці вымя і адпавядаць яму ў шырыню і даўжыню. Хвост тонкі і доўгі. Калі яшчэ ў цяляці на ніжняй унутранай часьці задніх ног зьяўяцца шырокія моцныя і мясістыя наросты, дык з такога цяляці будзе малочная карова; а калі наросты будуць круглыя, дык малака ад такога цяляці (каровы) будзе мала.

Калі вымя вырасла, дык яно павінна быць цьвёрдым, гладкім і бліскучым. Вялікае, шырокае чатырохкантовае вымя—лепшая адзнака малочнасьці і наадварот—маршчыністае, вялае вымя дае мала надзеі на малочнасьць. Калі цяля мае рогі, дык і па іх можна судзіць аб малочнасьці. Рогі растуць ад касьці і павінны быць гладкімі і бліскучымі, як шкура. Даўжыня рога і іх пасадка значэньня ня маюць. Лобная косьць паміж рагамі павінна быць гладкай і роўнай. Калі яна ня роўная, дык лепш няхай будзе выпуклая, чым упалая, бо ўпалы лоб—дрэнная адзнака.. Агр. Лібах.

---

## Як аберагчы хатнюю жывёлу ад хвароб*).

*Догляд за скацінаю на пашы.* Пасьля доўгай зімы скаціну пераводзяць на выган. Гаспадар даўно чакае таго часу, калі палегчыцца догляд за скацінай, якая большую частку дня бывае на пашы пад на-

*) Глядзі час. „Плуг“ № 11 за 1926 г.

глядам пастуха. Часта гаспадар пасьпяшае з выганам скаціны на пашу і не даведваецца нават ці ёсьць там даволі корму. Між тым, летняе ўтрыманьне скаціны ня так проста, як гэта думаюць, і не лягчэй зімняга. Ёсьць шмат прычын, якія выклікаюць хваробы скаціны ў час папасу. Калі ня прыняць гэтага пад увагу, дык летнія хваробы могуць быць страшны нават больш зімніх.

Перш на пашы скаціна павінна мець здавальняючую колькасьць корму, інакш яна будзе галадаць. Найлепшым папасам зьяўляюцца сенажаці з добрай спажыўнай травою. Але пра нашы сенажаці нельга сказаць, каб яны былі добрыя. Глеба на іх задзерванелая, трава вельмі рэдкая, усюды сустракаюцца куп‘ё, мох і шмат не спажыўных траў. Такія сенажаці часта шкодзяць скаціне.

Калі гаспадар жадае, каб яго скаціна выглядала добра на пашы і была-б здаровай, дык ён павінен паклапаціцца аб палепшаньні сваіх сенажацяй. Гэта неабходна ня толькі для летняга выпасу, але і для зімняга кармленьня скаціны. Нашы сенажаці павінны быць старанна ачышчаны, асушаны, выраўнены і на іх трэба падсеяць спажыўных траў. Да апошніх трэба аднесьці канюшыну, люцэрну, выку, цімафейку, райграс і інш. Гэтыя травы маюць у сябе шмат бялку, чаму яны і павінны быць прылічаны да спажыўнага корму. Яны ўсюды сустракаюцца на сенажацях, але звычайна не ў такой колькасьці, як гэта пажадана было-б мець.

Калі сенажаці кепскія, то летні папас павінен дапаўняцца падкармліваньнем скаціны дома. Як паказалі вопыты, падкармліваньне аказвае асабліва добры ўплыў на малочных кароў, павялічвае іх удой і проц. жыру ў малаку. Падкармліваньне сухім кормам зьяўляецца асабліва неабходным у першыя дні папасу і пры раньнім выгане скаціны. Бяз гэтага скаціна сільна мізарнее ад паносаў. Гэта самае трэба адзначыць і адносна перавода скаціны ад выгану ў хлеў (увосень), калі неабходна падкармліваць яе сырым кормам (трава, гародніна).

Для ўхіленьня кепскіх вынікаў ад зьмены ўтрыманьня скаціны пры пераходзе ад летняга кармленьня да зімняга і наадварот, даволі будзе падкармліваць скаціну ў працягу двух тыдняў.

У час папасу трэба ўхіляцца балот; не падыходзіць блізка да скоцкіх магільнікаў; даваць адпачынак скаціне ў час паўднёвай пякоты; ня гнаць хутка скаціну, калі яна ідзе на вадапой; не ганяць і не марнаваць быстрымі пераходамі з аднаго месца на другое; у дождж і халоднае надвор‘е зусім не ганяць скаціну на пашу; не пакідаць на нач; ня пасьвіць каля вялікіх праежджых шляхоў; буйную жывёлу пасьвіць асобна ад авечак і сьвіней. Наогул берагчы і абараняць скаціну маючы для гэтага добрага і разумелага пастуха.

Усе гэтыя правілы зразумелы і іх ня трэба паясьняць. А наконт пастуха неабходна трохі пагутарыць. Звычайна ў нас зварачваецца вельмі мала ўвагі на асоб, якіх дагаварваюць для пасьбы скаціны. Пры гэтым думаюць толькі аб тым, каб дзешавей наняць пастуха. Між тым такая думка няправільна і ня выгадна як для скаціны, так і для саміх гаспадароў. Трэба памятаць аб тым, што давяраючы пастуху ўсё стада, гаспадары могуць і патрабаваць ад яго поўнага захаваньня гэтага стада; патрабаваць-жа гэта можна толькі ад разумнага, цьвярозага і вопытнага чалавека, даўшы яму і належную ўзнагароду за яго працу.

У нашых-жа дзяшовых пастухоў па іх недагляду часта здараецца такое няшчасьце са скацінай, як перабітыя ногі, прапоратыя бакі, параненьня вым‘я, выпушчаныя кішкі, гібель жывёлы ў якой-небудзь

дрыгве, згубы скаціны ад уздуцьця жывата і інш., што вядзе да значных страт у гаспадарцы і жывёлагадоўлі, не гаворачы ўжо аб гібелі ўсяго стада ад якой-небудзь заразьлівай хваробы. Тут ужо страты будуць нязьлічаны. Па недагляду пастуха шмат яшчэ прападае буйнай і дробнай жывёлы ад ваўкоў.

Усе гэтыя страты скаціны ад дрэнных пастухоў могуць прыблізна па Беларусі падлічвацца ў колькасьці 1.000 галоў буйнай рагатай жывёлы і 500 галоў дробнай у год (па 150 галоў на акругу). Лічачы цяпер кожную буйную галаву па 30 руб. і дробную па 5 руб., мы атрымаем усяго каля 33.000 руб. страты. Колькі можна было-б наняць на гэтыя грошы добрых пастухоў і тым самым захаваць жывёлу!

Вэтврач **М. Жарын.**

---

# Што трэба рабіць, калі ў гаспадарцы зьявіўся яшчур (язычніца).

Калі яшчур зьявіўся ў адным альбо ў двух-трох дварох і ў той час, калі скаціна стаіць па хлявох, дык можна суровымі мерамі ня пусьціць пашырэньня хваробы. У такіх выпадках трэба, каб у заражоны двор нікаго ня пускаць і нічога не пераносіць.

Ня толькі людзі і жывёла, але нават сабакі, кошкі і птушкі могуць вынесьці заразу з недабрабытнага двара. Ня толькі з кормам ці з вадапойным вядром, але і на вопратцы, ботах і інш. можна разьнесьці заразу. Дзеля гэтага трэба на варотах такога двара напісаць:

*„Тут яшчур, асьцерагайцеся“.*

*Якія меры прымаюць калі яшчур зьявіўся на скаціне ў час пашы.*

Калі яшчур зьявіўся на скаціне ў час пашы, дык тады хвароба хутка ня скончыцца і ёю перахварэюць не 1-2 галавы. Трэба загадзя ведаць, што перахварэе ўся скаціна. А пагэтаму. трэба прымаць меры адразу да ўсяго статку, калі ў ім знайшлася хоць адна хворая карова.

Яшчур перабярэ ўсіх кароў у стадзе ці гаспадарцы, і хвароба будзе цягнуцца без канца. Выздаравеўшая жывёла часам захварэе ў другі раз. Гэта вельмі стратна для гаспадароў, бо ўвесь гэты час яны ня могуць свабодна пераводзіць і перавозіць жывёлы, корм і прадаваць на бок малако.

Адсюль ясна, што чым хутчэй скончыць з яшчурам, тым менш будзе страты.

Папярэдзіць-жа захварэньне на яшчур вялікага стада зусім ня цяжка: трэба наўмысьля перазаразіць усю жывёлу ў стадзе ў адзін час. Гэта робіцца так: бяруць на чыстую, мылкую анучку сьліну хворай жывёлы і гэтай анучкай націраюць язык ці дзясны яшчэ здаровай жывёлы. Ад гэтага здаровая жывёла лёгка захварэе на яшчур Гаспадар гэта ведае, лепш глядзіць за ёю, у гэтакіх выпадках хвароба праходзіць лягчэй.

Перазаразіўшы адначасова ўсё стада, можна разьлічваць, што тыдні праз 3 хвароба ў стадзе скончыцца.

Далей трэба старацца, каб яшчур не перанясьці з сваёй вёскі ў другую, яшчэ добрабытную. Дзеля гэтага ня трэба хадзіць туды і вазіць адтуль корм, малако і малочныя прадукты. Ня трэба пушчаць да сваёй скаціны ў хлявы гандляроў, а таксама скупшчыкаў скур, шэрсьці і іншых прадуктаў.

Трэба ачысьціць ад гною свае двары, бо ў гнаі доўга захоўваецца зараза яшчура.

Трэба безадкладна зьвярнуцца да свайго вэтэрынара, каб ён даў параду наконт яшчура.

Трэба арганізаваць у сваёй вёсцы вэтэрынарна-санітарнае апякунства, калі яго яшчэ ня было і даручыць яму праводзіць мерапрыемства супроць зносу яшчура.

*Як лячыць хворую жывёлу.* Для лячэньня хворае жывёлы неабходна перш за ўсё чыстата і асабліва чыстата падлогі; даваць мягкі, сакавіты корм, асабліва пры захвараньні ў роце. Бяз гэтых ўмоў ніякае лячэньне не пасьпешыць выздараўленьня.

Лякарстваў пры яшчуры прымяняюць даволі многа. Дзеля смазваньня балячак у роце прымяняюць слабы рашчын галыну, буры, салянога квасу, крэоліны, таніна і інш.

Пры захвараньнях вымя—яго трэба абавязкова добра здаіваць, але рабіць гэта трэба вельмі асьцярожна. Балячкі на вым'і смазваюць борнаю альбо цынкаваю мазьзю. Калі капыты трымаюцца чыстымі і сухімі, то лячыць іх амаль што і ня трэба. Балячкі-ж на капытох звычайна змазваць добрым дзёгцем напалову з алеем.

Лепш-жа за ўсё за сродкамі для лячэньня яшчура зьвярнуцца да вэтэрынара.

Вэтэрынар **М. Жарын.**

---




## Антонаўка.

Па ўсей Беларусі гэта самае вядомае яблыка—добра знаёмае садаводу—гаспадару і пакупцу.

Гэты гатунак найбольш жаданы ў садох Беларусі, бо ён гаспадару дае больш карысьці, а пакупцу лепшага гатунку яблыка. Але антонаўка распаўсюджана ня толькі ў Беларусі, а і па ўсей сярэдняй РСФСР і паўночных раёнах Украіны. Антонаўка пачынае пранікаць у Паволжжа, вядома і на Валаамскіх выспах (на выспах Ладажскага возера); сустракаецца ў Закаўказьзі і нават у Пярсыцкае мяжы—у Нахічэванскай Аўтаномнай рэспубліцы Азэрбайджана. Напэўна і Прыбалтыцкія рэспублікі ведаюць і разводзяць гэты гатунак, хаця ў меншых разьмерах, чым у нас. Вядома антонаўка ў Нямеччыне, у горных раёнах Швэйцарыі, у Амэрыцы.

Антонаўка—гонар нашага пладаводзтва. Здавалася-б, што ў такім выпадку гатунак гэты намі выўчаны і знаёмы нам настолькі, што далей нічога і не застаецца вывучаць. Праўда, мы шмат што аб ім ведаем: дрэва трывалае да нашых зім, росту досыць буйнага з шырокай каронай, пладавітае; плады хаця даволі кіслыя, але ўсё-ж такі салодкія і прыемна-асьвяжаючыя, прыгодны ня толькі для сталаваньня, але добра перахоўваюцца ў мочцы, добра сушацца і спажываюцца сьвежымі, захоўваюцца да глыбокай зімы.

І мы зьвяртаем больш увагі на антонаўку з-за яе вельмі добрых якасьцяй і садзім яе найбольш у нашых садох. Даглядаем-жа за садам, як хто ўмее. Аджываюць у садзе дрэвы, мы выкарчоўваем іх і садзім новыя маладыя.

А колькі гадоў пражылі нашы антонаўкі ў садзе? Якія ўраджаі яны давалі з году ў год? Якая агульная сума ўраджаю антонаўкі за ўсё жыцьцё кожнага дрэва? Колькі ў сярэднім штогодна ўраджаю на кожнае дрэва антонаўкі? Якая вялікая карысьць ад разьвядзеньня антонаўкі ў параўнаньні з другімі гатункамі (апортам, шклянай, бабушкіным і інш.)? Які сярэдні працяг жыцьця дрэва антонаўкі прышчэпленай на сеянцах лясной яблыні, на сеянцах кітайкі, на сеянцах іншых нашых гатункаў і г. д. Як доўга можа жыць антонаўка пры розных глебавых умовах? Пры якіх умовах антонаўка ўжо папкутуе і г. д. Усе гэтыя пытаньні зусім не пералічваюць усяго, і на іх адказы павінны высьветліць нам глыбей гэты гатунак для практычных мэтаў.

А вось пачынаецца красаваньне яблын. Калі дрэвы багата красуюць, дык ёсьць надзея на добры ўраджай. Надвор‘е добрае, ніякіх прымаразкаў няма. Аднак, здараецца, што антонаўка не дае ўраджаю,

альбо дае вельмі слабы. Чаму гэта так? Тут могуць быць розныя прычыны. Неабходна, папершае, ведаць ці завязвае антонаўка плод, калі апылкоўваецца сваім уласным пылком. Можа здарыцца, што ў адным месцы завяжа, а ў доўгім не завяжа аба завязвае дрэнна. Чым-жа горш або лепш было для яе тое ці іншае месца? А можа быць, што і зусім плады не завязваюцца ад свайго пылка. Усё гэта вымагае, каб побач быў другі гатунак, здольны стварыць завязь у антонаўкі. Калі так, дык пытаньне зноў у тым, ці ўсякі іншы гатунак здольны выклікаць стварэньне завязі на антонаўцы. Магчыма думаць, што ня ўсякі, але трэба дасьледваць. А калі далей мы шляхам дасьледваньня падбярэм цэлы шэраг гатункаў, ад апылкаваньня якіх стварающца завязі на антонаўцы, дык ці ў аднолькавых процантах палучаюцца завязі ад гэтых розных гатункаў. Якія-ж іншыя гатункі найлепш апылкоўваюць антонаўку, ствараючы на ёй самы высокі ўраджай.

Той, хто заўсёды ў законныя тэрміны мае здавальняючыя ўраджаі антонаўкі ў сваіх садох, той магчыма пасьмяецца над усімі гэтымі пытаньнямі, якія патрабуюць дасканальных дасьледаваньняў. Але калі кіраўніку правільнай плянавай пастаноўкі пладаводзтва краю альбо раёну даводзіцца праводзіць мерапрыемствы і выбіраць найбольш падыходзячыя для культуры сарты пладовых дрэў, дык у гэты час ён ужо ня можа абыяк адносіцца да ўсіх гэтых пытаньняў: ён павінен мець поўныя і самыя ясныя адказы і адпаведна гэтаму выбіраць сарты.

Або яшчэ, хто скажа нам, дзе ўпяршыню зьявілася антонаўка? Калі яна зьявілася ў садох Беларусі і сярэдніх губэрнях РСФСР, дык хто быў першым шчасьліўцам, які выявіў гэты каштоўны сорт. Якім шляхам ён быў выведзены і інш. І на гэтыя пытаньні мы ня маем адказаў.

Назва „антонаўка“ паказвае, што яна вышла: альбо з вёскі Антонаўкі, альбо яна пачала пашырацца з садоў нейкага гаспадара па прозьвішчу „Антонаў“ альбо насіўшага імя „Антон“. Але дзе гэтая вёска Антонаўка, або дзе жыў Антонаў ці Антон? Хто можа на гэта адказаць. Выходзіць, што нават аб самым лепшым і даступным нашым гатунку—антонаўцы мы, ведаем вельмі і вельмі мала. Аўтар быў-бы вельмі ўдзячан кожнаму, хто змог-бы паведаміць у часопісь „Плуг“ тыя ці іншыя адказы на пастаўленыя пытаньні аб антонаўцы, а рэдакцыі часопісі „Плуг“ за надрукаваньне гэтых паведамленьняў. Вельмі былі-б пажаданы адказы адносна ўсіх адмен антонаўкі, іх параўнаньне і асаблівасьці. Аўтар будзе вельмі ўдзячан і за прысылку яму фатаграфічных здымкаў антонаўкі і яе розных адмен.

Проф. **В. Пашкевіч.**

(г. Ленінград).

---

# Карысная садавіна—чырвоная чарэсьня.

Пры пераходзе на новую сялібу, чуць ні кожны гаспадар хоча завесьці хоць невялічкі садок. Але сяляне зьвяртаюць мала ўвагі, што пасадзіць, каб мець лепшую выгаду. Бывае так, што купіць селянін некалькі штук яблын ці ігруш, а то часта здараецца, што якуюнебудзь дзічку выкапае ў лесе і пасадзіць, а то перасадзіць з старой сялібы вішню.

Вось тут ужо і садок. Але, як вядома, карысьць ад яго не завідная. Я-бы раіў пры пасадцы зьвярнуць асаблівую ўвагу на чырвоную

чарэсьню; яна дрэвам і лісьцем мала адрозьніваецца ад вішні, але ягады далёка большыя і смачнейшыя. Пасьпявае яна на тыдні два раней (упачатку ліпеня) тады і цана на яе бывае добрая (15—20 кап. фунт.).

Вішня пасьпявае ў другой палове ліпеня. Пры добрым доглядзе дзесяцігадовы куст чарэсьні можа даць фунтаў 20—30 ягад, а то і болей. Калі ўзяць у сярэднім 15 кап. за фунт, дык адно дрэва можа даць даходу ад 3 да 5 рублёў. Абіраць чарэсьні могуць дзеці і падросткі.

Такім чынам, відаць уся выгада. Праўда, можа зімовыя сарты яблын ці ігруш дадуць і больш даходу, але ня мала трэба і клопату, каб захаваць іх зімою ад марозу і выгадаваць.

Сел. Г. Б.

(в. Каралішчавічы, Самахвалавіцкага р.).

# Хвароба пчол—гнілец.

Пчаліная хвароба гнілец вельмі заразьлівая. Хаця шмат хто і гаварыў, што яна зьяўляецца сама ад сябе, ад дрэннага корму ці ад таго, што вулей халодны, але я за 40 год практыкі гэтага не заўважыў. Памойму гнілец бывае дваякага сорту. Адзін незаразьлівы, які запраўды бывае ад дрэннага догляду і калі хворых пчол выкінуць з вульля, то здаровыя не заразяцца. Другі гнілец заразьлівы і калі хоць адна пчала заразіцца, то прападзе ўвесь вулей. Незаразьлівым гнільцом хварэюць больш слабыя пчолы, а заразьлівым—больш дужыя, якія далей лятаюць, больш пранырлівы.

Гэта хвароба цяпер вельмі пашырана ў паўднёвай частцы Бабруйскае акругі і паўночнай Мазырскае. Пчол, захварэўшых на заразьлівы гнілец, шкадаваць ня трэба, бо яны ўсё роўна самі памруць і яшчэ заразу пераносяць. Вось чаму, калі вядома, што вулей заражаны на гнілец, трэба вечарам, як усе пчолы зьбяруцца, замазаць усе дзірачкі вульля глінай і так пакінуць да зімы. Заморaныя сем'і пчол павінны вычышчацца і пратраўлівацца толькі зімой.

Гэтак я раіў зрабіць пчаляром у 1924 г., але яны мяне не паслухалі. У вёсцы Слабодка ў 1924 годзе было тры сям'і хворых, у 1925 трыццаць, а ў 1926 годзе—амаль што ўсе. Мае пчаляры схамянуліся, калі ўсе пчолы загінулі.

Некаторыя вопытныя пчаляры даўней прабавалі лячыць гнілец, але я на сваёй практыцы праканаўся, што лячыць іх можна, але няма сэнсу гэтага рабіць. Тым больш хворых пчол лячыць на пасецы нельга; каля хворых пчол трэба быць вельмі акуратным, каб не заразіць другіх. Лячыць іх трэба адводзячы за пяць-шэсьць вёрст, значыць падвесьці заразу пад чужыя пчолы. Ясна, што няма ніякага сэнсу з імі вазіцца.

Я пазбавіўся ад гнільцу толькі зьнішчыўшы захварэўшыя пчолы. У верасьні 1926 году я заўважыў 10 вульлеў заражоных на гнілец. Першым-жа марозам я іх замарозіў і зрабіў гэта па ўсіх правілах сваёй практыкі.

Дзеля гэтага не чакайце-ж вясны, пакуль пчолы пачнуць лятаць, а зімою забівайце ўсіх пчол, заражоных гнільцом, выбраўшы замарожаныя пчолы з вульля, трэба вульлі набіваць мохам, ці лісьцём, замазаць ляткі глінай і гэтак трымаць вулей ня менш шасьці месяцаў. Далей вулей вычысьціць, прасушыць і пратруціць яго серкай або фармалінам.

Селянін А. Сыцько.

# Перагон пчол.

Вадзіць пчол у калодах цяпер зусім ня выгадна. Каб мець ад пчол больш даходу іх трэба перавесьці у рамовы вулей. Гэта работа называецца „перагонам“ пчол.

Перагон пчол лепш рабіць вясною. Гэтым часам пераносіць пчол найвыгадней, бо пчол у вульлях ня вельмі шмат бывае, мёду і дзеткі таксама мала.

Вызначаную для пераноскі сям'ю трэба загадзя падрыхтаваць. Замазаць усе дзірачкі, якія ёсьць у пяце калоды, каб пры пераносцы туды не магла залесьці матка. У рамовы вулей, куды будуць пчолы пераносіцца, трэба ўставіць дзьве-тры рамкі з гатовымі сотамі і адгарадзіць дошкамі тое месца, якое патрэбна для аднэй сям'і, на 7-8 рамак.

Месца для рамовага вульля таксама трэба падрыхтаваць загадзя. Вулей трэба так прынаравіць, каб пры перастаноўцы ляток яго прыходзіўся на месцы лятка калоды. Нарыхтаваць трэба і лучынак, якімі будуць прымацоўвацца соты да рам; на кожную раму такіх лучынак трэба пар 5-6.

Пераганяць пчол трэба ў сонечны, ціхі і цёплы дзень, у пару найбольшага лёту пчол. На пасеку выносіцца стол і інструманты: малаток, абцугі, нож і цьвікі. Туды трэба прыносіць вядро з вадою, 2 абрусы, рушнічок, матачную клетачку, чарпак, ночвы і кадушку. Усё гэта патрэбна будзе пры перагонцы.

Рамавы вулей трошкі падкурваецца і ніз падмятаецца. Затым калода пераварочваецца пятой уверх і адносіцца трошкі ўбок. Там яна перавернутая і замацоўваецца, а на яе месца ставіцца рамовы вулей. Лияткі ў калодзе шчыльна закрываюцца.

Як усё гэта будзе зроблена, пачынаюць стукаць кіёчкамі па галаве калоды (яна цяпер унізе). Пастукаўшы з мінуту, робіцца перапынак, каб пчолы набралі сабе мёду. Пасьля гэтага пачынаюць ізноў стукаць. Пчолы патурбованыя нязвычайным становішчам і стукам пачынаюць зьбірацца ў клубок у пустым месьце пяты калоды, якая цяпер наверсе. Як усе пчолы зьбяруцца ў пяце, іх трэба адтуль вычарпаць у раёную. Чарпаць трэба зьнізу ўверх і пры тым асьцярожна. Пчол можна сыпаць і на разасланы па прылётнай дошцы рамачнага вульля абрус.

Пчолы тады адна за другою паляцяць у новы вулей праз ляток. Тут трэба сачыць за тым, каб не вайшла ў вулей матка. Заўважыўшы на абрусе трэба яе злавіць і пасадзіць у клетачку.

Калі пчолы былі ссыпаны ў раёўню, то матку шукаць у ёй. Часта матку можна заўважыць і ў калодзе, яна будзе лазіць па версе клубка. Дзе-б матку не знайшлі, яе трэба ўзяць і пасадзіць у клетачку, а з клетачкай саджаць у новы вулей.

Застаўшыяся ў калодзе пчолы трэба пазганяць дымам, пускаючы яго ў пяту вульля, праз адчыненую ўтулку пяты калоды. Калі большая палова пчол і матка будуць ужо ў рамовым вульлі—пачынаюць зрэзваць соты з калоды. Сартуюцца яны так, што соты з мёдам кладуцца асобна, з дзеткаю асобна, пустыя асобна. Соты трэба берагчы ад ветру і сонца, таксама глядзець, каб іх не паціснуць. На дно пасуды, куды будуць класьціся соты, трэба палажыць што-небудзь мяккае, напрыклад, рушнічок і зьверху пасуду таксама прыкрыць.

Пры перагоне пчол лепш працаваць удвох. Адзін будзе вырэзваць соты, а другі ўстаўляць іх у рамкі. Перш устаўляюцца соты з чарвой, затым з мёдам і нарэшце пустыя вашчыны.

Да рамкі, якая прызначана для сотаў, прыбіваецца маленькімі цьвічкамі к аднаму боку лучынкі. Затым рамка гэтым бокам кладзецца на стол і шчыльна запаўняецца сотамі.

Устаўляючы соты ў рамкі трэба глядзець, каб яны ня былі паложаны дагары нагамі.

У рамовы вулей устаўляюцца столькі сотаў, колькі пчолы могуць пакрыць, а рэшта разьмяркоўваецца па іншых вульлях.

Калі на пасецы ёсьць другія рамовыя вульлі, то карысна ўзяць ад іх па рамцы гатовых сотаў і туды ўставіць па рамцы сотаў узятых з калоды. Такім чынам, праца замацаваньня сотаў будзе зроблена ўсімі пчоламі і перагнанаму вульлю будзе менш работы.

На другі дзень пасьля перагонкі матку з клетачкі можна выпусьціць. Праз дзён тры можна будзе адарваць і лучынкі. Цяпер ужо бадай што ўсе соты будуць замацаваны пчоламі да рамак.

Так праведзеная перагонка заўсёды добра ўдаецца.

А. Магучы.

# Летнія работы ў гародзе.

Пасеў ужо кончан, але ў гародніцтве гэта ня самае галоўнае. Найбольш адказныя работы яшчэ наперадзе.

*Пульхненьне.* Кожнай частцы расьлін у зямлі і наверсе патрэбна цяплыня, паветра і вільгаць, а заплыўшая глеба не прапускае іх да карэньняў. Яскрава, што дзеля карысьці расьлін трэба рабіць пульхненьне глебы.

*Полка* асабліва патрэбна маладым расьлінам, бо сарніны, зьяўляючыся ў вялікай колькасьці, высушваюць глебу і выкарыстоўваюць пажыўныя сокі глебы. Сваімі лісьцямі сарніны засланяюць маладыя ўсходы ад сьвету і па гэтаму з імі трэба весьці барацьбу прапалываньнем.

*Прарываньне.* Ад несваечасовага прарываньня палучаюцца дрэнныя вынікі. „Шкода прарываць“—„болей будзе“—так кажуць тыя, хто ня ведае карысьці ад прарываньня. Напрыклад, караньплоды без прарываньня не дадуць добрага ураджаю.

*Асыпаньне* робіцца дзеля таго, каб даць большую устойлівасьць расьліне і выклікаць зьяўленьне дадатковых карэньняў і гэтым усіліць рост расьлін. Але асыпаць трэба паступова, каб зразу не засыпаць расьліны. *У сухую пагоду летам не асыпаць.*

*Вадкія ўгнаеньні* на гародах з пустымі глебамі павінны мець шырокае прымяненьне. Самым пашыраным такім угнаеньнем зьяўляецца каравяк. Прыгатаўляецца ён так: бочка напаўняецца кароўім калам да $^1/_4$, наліваецца вадою і накрываецца. Час ад ад часу ў бочцы мяшаюць палкаю. Праз тыдні $1^1/_2$-2 у бочцы наверсе зьяўляцца пузыркі—прыметна закісаньне. Пракісшы каравяк разводзяць у пяці частках вады і ўгнайваюць глебу.

Акрамя каравяка, карыстаюцца мінэральнымі ўгнаеньнямі, растворы якіх ўносяцца зараз-жа пасьля прыгатаўленьня. На граду ў 1 м. шырыні і 20 мэтр. даўжыні бярэцца 15-20 вёдзер вады, разводзіцца ў іх каля 150 грамаў супэрфосфату, 150 гр. салетры і 80 гр. калійнай солі. (30%). Паліваць градкі ўгнаеньнем трэба пасьля дажджу ці перш добра паліўшы іх чыстаю вадою.

### Паасобныя работы.

*Памідоры.* Тыдні праз тры пасьля пасадкі памідораў неабходна ставіць з паўночнага боку колічак таўшчынёй з грабільна і вышынёю ня менш мэтра. Пры далейшым росьце ўвесь час памідоры падвязваюцца да гэтага калочка. У нашых умовах памідоры неабходна вясьці толькі адным сьцяблом, а ўсе бакавыя галінкі зьнішчаць пры іх паяўленьні. Прыблізна ў пачатку красаваньня памідоры асыпаюцца першы раз, другі раз пры зьяўленьні завязі. У другой палове лета зразаецца верхавіна сьцябла, каб застанавіць непатрэбны рост у вышыню.

*Капуста.* Перад пасадкаю капусты ці пасьля яе павінна быць зроблена вапнаваньне глебы ў мэтах барацьбы з кілою і чорнай ножкай. Далей праводзіцца пульхненьне глебы плянэтам або асыпнікам і зьнішчэньне сарнякоў. Асыпаецца капуста два разы. Першы раз праз месяц пасьля пасадкі, а другі—тыдні праз два пасьля першага.

Асыпка капусты звычайна робіцца пасьля дажджу.

*Буракі і морква.* Акрамя звычайнага спосабу догляду неабходна яшчэ прарываць на 3-4 і далей на 4-6 вярш., а таксама і прысыпаць вышаўшыя з зямлі часьці карэньняў.

*Гуркі і гарбузы.* Пасьля канчатковага прарываньня, якое павінна быць ня менш, як на чвэрць у радку (для гарбузоў больш), расьліны пры зьяўленьні чацьвёртага ліста асыпаюцца, а пры зьяўленьні 6-7 ліста прышчыпваецца верхавіна касы, каб выклікаць рост бакавых галінак. У гэты-ж момант каса выпрамляецца.

*Цыбуля*—глядзі часопіс „Плуг“ № 5—1927 г.

**В. Красачкін.**

---

# С.-Г. ХРОНІКА.

## Вытворчая нарада па сельскай гаспадарцы.

*(м. Бялынкавічы, Калінінскай акр.)*

3-га красавіка г. г. Бялынкавіцкі Райком ЛКСМБ склікаў сельскагаспадарчую вытворчую нараду. Тэмай дня была пастаўлена гутарка селяніна-дасьледчыка Ц. Апета „Як сабраць некалькі ўраджаяў у год або атрымаць 5000 руб. з дзесяціны і як засяваць гароды“.

Усе слухалі вельмі ўважліва, пасьля задавалі шмат пытаньняў і выказваліся самі; гутарка была прыстасавана да нашай мясцовасьці. Дакладчык са сваёй практыкі паказваў, што можна зрабіць на нашай глебе. Да гэтага часу такіх нарад у нас не праводзілася. Рэдка, можа раз у год, праводзілі ў Бялынкавічах с-г. гутаркі аграномы. На нарадзе прысутнічала каля 120 чалавек сялянскай моладзі і сялян. Кепскавата, што зусім мала было старых гаспадароў. У рэзалюцыі нарада пісала, каб далей рэгулярна праводзіць такія нарады.

**Р. Бяздольны.**

---

## Як праходзіла пасеўная кампанія.

*Пашырэньне пасеваў лубіну.* Меркавалася гагатаваць для БССР у гэтым годзе 45.000 пуд. лубіну. Загатавана-ж было цэнтрам 46%, апрача гэтага на мясцох вяліся загатоўкі с.-г. таварыствамі. Дадаткова патрабавалі лубін з цэнтру Мазырская і Полацкая акругі. Большасьць інш. акруг таксама адчувала недахоп насеньня лубіну. Няпоўнае здавальненьне насеньнем лубіну тлумачыцца нявысокім ураджаем лубіну ў мінулым годзе.

*Насеньнем канюшыны* насельніцтва здаволнена поўнасьцю. Усяго было загатавана к пасеўнай кампаніі каля 28.000 пуд. (452,5 тонны), апрача мясцовых загатовак. Канюшына амаль уся раскуплена. У мінулым годзе было прадана канюшыны 17.000 пуд.

Частка загатовак (5-6 тыс. пуд.) праведзена на беларускім рынку. Адна Слуцкая акруга прадала да 2.000 пуд. канюшыны.

*Сэрадэлі было* загатавана каля 14.000 пуд. У мінулым годзе яе разышлося 9.909 пуд.

*Пашырэньне караньплодаў.* У гэтым годзе было загатавана насеньня на 45.000 руб. (да 3000 пуд.) і амаль усё разышлося. У мінулым годзе разышлося караньплодаў 1.211 пуд., а плошча займала каля 5500 дз. Такім чынам, можна спадзявацца, што плошча караньплодаў у гэтым годзе падвоіцца.

*Пашырэньне мінэральных угнаеньняў.* К вясне гэтага году загатавана было 612.700 пуд. мінэральных угнаеньняў. Гэтай колькасьці мінэральных угнаеньняў хопіць для здавальненьня патрэб поўнасьцю.

Некаторыя віды ўгнаеньня, як калейная соль, салетра і фосфарная мука, у некаторых акругах ужо разышліся ўсе.

## Пашырэньне мерапрыемстваў па палепшаньню якасьці мясцовых сьвіней.

Накармземам і Дзяржагандлям падпісана згода аб пастаўцы апошнім 50 кныроў-племянікоў для разьмеркаваньня па злучпунктах у Аршанскім бэконным раёне (сюды ўвойдуць усе раёны Аршанск. акр. і бліжэйшыя раёны Віцебск., Магіл. і Барысаўск. акр.).

Кныры будуць выдавацца толькі коопэрацыйным і колектыўным аб'яднаньням. Кныры перадаюцца на дагаворных умовах. Пасьля трох год племянной працы кныры пераходзяць аб'яднаньню. Зацікаўленыя т-вы павінны зьвяртацца за кнырамі ў Аршанск. АКРЗА.

Усяго к канцу года ў Аршанскім бэконным раёне будзе 100 злучпунктаў, сем выхавальнікаў і два племзаводы (Ворша, Віцебск).

---

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

*Сел. А. Старавойтаву.* „Плуг“ № 4 выслалі вам другі раз. Падпісную плату за другую палову 1927 г. атрымалі.

*Яму-жа.* На запытаньне: „Што рабіць з лугам, на якім пасьля дажджу (вясною і ўвосень) бывае мокра. Я хачу гэты луг узараць і завесьці шматпольле, бо ў мяне мала зямлі“

*Адказ.* Калі вады зьбіраецца так многа, што звычайныя канавы не дадуць добрых вынікаў (вада ўсё-ж такі будзе застайвацца), дык ад канавы цераз поле лепш залажыць дранаж. Па дранажу будзе сходзіць вада з канавы (канаў). Аднак, ня бачыўшы Вашага вучастка, цяжка раіць упэўнена. Папрасеце лепш прыехаць да Вас агранома або культур-тэхніка.

*Дапішчыку М. Карунчыку.* 1. Усе карэспондэнцыі, якія прысылаліся бяз маркі, рэдакцыя выкупляла.

2. Аб чым пісаць летам?—Праглядзеце летнія нумары „Плуга“ за мінулыя гады, таксама апісвайце больш падрабязна ўсё, што робіцца новага ў сельскай гаспадарцы Вашай вёскі і Вашага раёну. Прысылайце здымкі.

*Сел. Гучку Б.* Чарэсьні будуць прадавацца ў дзяржаўных садовых выхавальніках толькі з 1928 г. Зараз Вам прыдзецца шукаць іх у дробных сялянскіх садовых школках.

*Селяніну Р. Бачыла.* Вы прасілі вызначыць траву, ад якой прыслалі два лісткі (для вызначэньня расьліны лепш прысланаць усю расьліну).

1. Расьліна, аб якой Вы пытаецце, напэўна, будзе піжма. Яна мае высокае і тоўстае сьцябло, жоўтыя цьвяткі; расьце па межах, шкодны сарняк. Яе трэба нішчыць і кідаць у кампостныя кучы.

2. За палучэньнем мінэральных угнаеньняў у крэдыт зьвярнецеся ў раёне да с.-г. коопэрацыі.

Аб ужываньні мінэральных угнаеньняў прачытайце брашуру агранома П. Зайца.

*Сел. З. Усачову* (Шклоў). Аб машынізацыі Вашай вёскі пішэце, надрукуем.

---



---

**Выданьне Наркамзему.** Адк. рэд. **Зьм. Прышчэпаў.**

Рэд. кол. *Э. Русецкі, Шукевіч, А. Смоліч. Сьц. Тупяневіч.*

 ЦАНА 20 к.

# ДРУКУЕЦЦА І ХУТКА ВЫЙДЗЕ З ДРУКУ

НОВАЯ ЧАСОПІСЬ

# „СЕЛЬСКАЯ І ЛЯСНАЯ ГАСПАДАРКА“.

МЭТА ЧАСОПІСІ асьвятляць пытаньні сельскай і лясной гаспадаркі, грунтуючыся на выніках працы навуковых і дасьледчых установ Беларусі і паасобных дасьледчыкаў, на апошніх дасягненьнях сусьветнае навукі.

Часопісь разьлічана на масавага зямельнага спэцыялістага (агранома, жывёлавода, лясьнічага, коопэратара, каморніка, мэліоратара і г. д.)

У часопісі прымаюць удзел: Загадчыкі аддзелаў і вучоныя спэцыялістыя Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту, профэсары, доцэнты і выкладчыкі Беларускай с.-г. Акадэміі, працаўнікі дасьледчых станцый, зямельныя працаўнікі, экономісты і аграномы БССР, сяляне-дасьледчыкі, сяляне-культурнікі і інш.

## ЗЬМЕСТ № 1

**М. Галадзед**—На дапамогу соцыялістычнаму будаўніцтву. **З. Прышчэпаў**—Думкі аб ролі Навукова-Дасьледчага Інстытуту. **Г. Гарэцкі**—Асноўныя лініі організацыі навукова-дасьледчай працы па сельскай і лясной гаспадарцы ў БССР. Проф. **А. Д. Дубах**—Мэліорацыйныя досьледы і сувязь іх з прыродна-гістарычнымі і экономічнымі дасьледваньнямі. **Г. М. Чуйко**—Да мэтодыкі працы Інстытуту сялян-дасьледчыкаў. **П. Рагавы**—Сельска-гаспадарчая вытворчасьць падзолавых глеб Беларусі. **К. Кіпрыянец**—Забясьпека насеньнем канюшыны (Аршанск. акр. аграном). **С. П. Такмачоў**—Асноўныя тыпы палепшаных севазваротаў для Барысаўск. акр. **А. Берзін**—Кампаставаньне торфу ў полі. **М. Бурштэйн**—Дапытаньня аб сталым пладовым асартымэнце БССР. Проф. **С. П. Мельнік**—Шляхі лясаводнае думкі за апошняе дзесяцігодзьдзе. **Н. М. Якаўлеў**—Да біолёгіі хвастковага дубу. **Р. Рак**—Рамяствы Беларусі і саматужна-рамясьніцкія выстаўкі.

### Рэфэраты саюзных і замежных прац.

Апошнія амэрыканскія досьледы па сьвінаводзтву. Проф. Шмук—Редукция нитратов корневой массой растений. **М. К. Домантович и О. В. Зарубина**—О растворимости двухкальциева фосфата. **С. М. Драчев**—Некоторые изменения органического вещества подзолистой почвы при длительном паровании.

### Інформацыя.

Сельска-гаспадарчыя сэкцыі Інстытуту Беларускае Культуры. Забалацкая балотная дасьледчая гаспадарка. Паведамленьне аб Турскай с.-г. дасьледчай станцыі. Дасьледчая праца Палескай с.-г. станцыі. Інстытут сялян-дасьледчыкаў. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства. Беларускі с.-г. Банк.

ДА КАНЦА 1927 ГОДА ВЫЙДЗЕ ТРЫ НУМАРЫ.

## ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:

Да канца года (за тры нумары) . . 2 р. 50 к.
Паасобны нумар . . . . 1 р. — к.

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: у Выдавецтве НКЗ (Савецкая 71, Менск) і на кожнай пошце.**

*Адрас Рэдакцыі: Менск, Шырокая № 28.*